
Свята роднай мовы ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Кніжка Галіны Максімюк ➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 09 (3277) Год LXIV | Беласток, 3 сакавіка 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# IV Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Заяўка пра намер арганізацыі IV Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў, які 23 студзеня прайшоў вуліцамі Гайнаўкі, амаль месяц раней была пададзена ў Гарадскую ўправу ў Гайнаўцы і адразу стала выклікаць многа эмоцый. 7 лютага Рада горада Гайнаўка запрацівілася намеру арганізаваць чацвёрты марш, а прычынай гэтаму стала перш за ўсё постаць Рамуальда Райса, псеўданім «Буры», якога ўслаўлялі ўдзельнікі папярэдніх гайнаўскіх маршаў, хаця на ім ляжыць адказнасць за злачынствы супраць каля 80 праваслаўных беларусаў, якія былі здзейснены яго атрадам на зломе студзеня і лютага 1946 года на тэрыторыі былога Бельскага павета. Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак не даў згоды арганізаваць IV Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў, так як зрабіў два гады таму. Аднак арганізатары маршу рашэнне бургамістра Гайнаўкі абскардзілі ў Акруговым і Апеляцыйным судах у Беластоку, якія адхілілі забарону гайнаўскага бургамістра і ў выніку марш мог адбыцца. Траса чацвёртага маршу ізноў выклікала эмоцыі, паколькі прайшоў ён па тых самых вуліцах, што два папярэднія маршы, а менавіта выйшаў з-пад касцёла Узвышэння Святога Крыжа і прайшоў вуліцамі 3-га Мая, Сцяпана Баторыя, айца Антонія Дзевятоўскага, каля Свята-Троіцкага сабора і завяршыўся каля Гайнаўскага дома культуры і сабора якраз перад суботняй усяночнай багаслужбай. Яшчэ перад маршам у Скверы імя Дзмітрыя Васілеўскага была ўшанавана памяць ахвяр атрада «Бурага» пад лозунгам «Вечная памяць». Сабраныя ў скверы зачытвалі прозвішчы ахвяр, каля крыжа ставілі знічы і глядзелі выставу «Наша памяць», падрыхтаваную Беларускім гістарычным таварыствам і фондам «Kamunikat.org», якая раней прэзентавалася ў Залешанах і Бельску-Падляшскім. Раніцай гэтага дня ў царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы гайнаўяне і прыезджыя асобы маліліся за ахвяры атрада Рамуальда Райса падчас літургіі і паніхіды.



Фота racyja.com

23 лютага многа гайнавян і прыезджых асоб сабралася ў Скверы імя Дзмітрыя Васілеўскага, распаложаным па-суседску будынка магістрата, каля якога з'явіўся транспарант з лозунгам «Трэба скончыць з гэтай нянавісцю». Адбылася там адкрытая сустрэча «Вечная памяць» для ўшанавання памяці ахвяр атрада «Бурага», так як рабілася гэта ў мінулым годзе. Аднак яшчэ раніцай у царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы гайнаўяне і прыезджыя асобы маліліся за ахвяры атрада Рамуальда Райса ў час літургіі і паніхіды, а малітвы ўзначаліў настаяцель прыхода протаіерэй Ян Раманчук. У Скверы Васілеўскага спачатку была расстаўлена выстава «Наша памяць», якая выклікала вялікую зацікаўленасць сабраных. На трынаццаці постарах прадстаўлены


Фота racyja.com



фатаграфіі і матэрыялы з паездак прадстаўнікоў Беларускага гістарычнага таварыства і фонду «Kamunikat.org» летам 2018 года па крывавым шляху атрада капітана Рамуальда Райса ў пачатку 1946 года, які замардаваў мірных беларусаў. Пра выставу «Наша памяць» распавёў старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак, адзін з аўтараў выставы. У скверы ў скарбонку збіраліся сродкі на далейшую рэалізацыю праекта «Наша памяць», які прадугледжвае збіранне архіўных дакументаў і аднаўленне помнікаў ахвярам атрада «Бурага». Апоўдні ў Скверы імя Дзмітрыя Васілеўскага сабраных прывітала Аліна Круталь, адна з ініцыятывы «Вечная памяць», якая паведаміла пра парадак сустрэчы. Многія трымалі ў руках запаленыя знічы, калі сталі зачытвацца імёны і прозвішчы ахвяр атрада «Бурага», якія ў 1946 годзе загінулі ў Залешанах, Занях, Шпаках, Вульцы-Выганоўскай, Канцавізне і каля Пухалаў-Старых. У час памінання ахвяр гайнавяне і прыезджыя асобы пачалі ставіць знічы каля вялікага крыжа, на помніку ў скверы ў гонар ахвярам войнаў, насілля і рэпрэсій. На сустрэчы былі, між іншым, нашчадкі ахвяр атрада «Бурага», бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, стараста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка, гарадскія, павятовыя і ваяводскія радныя. Прыбылі на спатканне «Вечная памяць» лідары розных польскіх партыяў.

— Мы спатыкаемся, каб засведчыць, што памятаем пра тое, як пасля вайны загінулі нашы бабулі, дзядулі, бацькі. Мы нязгодныя з лозунгам «Буры наш герой» і прыйшлі засведчыць, што мы супраць яго, — сказала Аліна Круталь з ініцыятывы «Вечная памяць».

— Мы тут сведчым аб пасляваенных злачынствах атрада «Бурага» і перш за ўсё ўшаноўваем памяць яго ахвяр. У нас ёсць тут магчымасць пачуць імёны і прозвішчы ахвяр атрада «Бурага» і запаліць побач крыжа знічы, — заявіла жанчына.

— Тут людзі і прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі з Польшчы, якія прыбылі сёння ў Гайнаўку, могуць пазнаёміцца з выставай «Наша памяць» і лёсам ахвяр атрада Рамуальда Райса «Бурага». Аднак нам вельмі важна, каб пазнаёміць з экспазіцыяй «Наша памяць» маладыя асобы з Беласточчыны. У бліжэйшым часе плануем запрэзентаваць выставу «Наша памяць» у Бельскім белліцэі, Гайнаўскім доме культуры і Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку, — сказаў прафесар Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства.

— Прыязджаюць у дзень маршу ў Гайнаўку маладыя мужчыны з розных мясцовасцей Польшчы і тут праслаўляюць «Бурага», якога атрад паліў нашы вёскі і забіваў нявінных людзей, у тым ліку дзяцей і жанчын, — сказаў гайнавянін і дабавіў, што менавіта з-за ўслаўлення «Бурага» марш выклікае вялікі супраціў гайнавян.

працяг ☞10





# Надвор'е і выбары

З таго часу, як я стаў гарадскім жыхаром і ажно па сённяшні дзень ніяк не магу разгадаць адной таямніцы, звязанай з натурай гарадскога чалавека. А менавіта чаму ў гарадскіх людзей такая звыш падвышаная цікаўнасць да прагнозу надвор'я. Здавалася б, мусіць быць усё наадварот. Вясковец больш залежыць ад капрызаў маці прыроды, бо ўвесь час знаходзіцца з ёй у рэжыме прамога ўзаемадзеяння. Жыхар жа каменнага горада сядзіць сабе ў цёплай кватэры з цэнтральным ацяпленнем, і выходзіць на вуліцу толькі, каб сесці ў свой асабісты або грамадскі транспарт і даехаць на ім да працы, дзе тэмпературны рэжым цалкам адпавядае хатняму з розніцай у адзін два градусы туды сюды. Ну і на галаву не капае, незалежна ад таго, што там за акном, дождж ці снег, лістапад ці завіруха, сонца ці бліскавіцы.

Ды вось дзіва! У вяскоўца тэрмометр вісіць на акне хіба што для прыгажосці. Бо ён на гэты цуд навукі за год можа ні разу і не глянуць. А вось гараджанін штодзённа правярае надвор'е па мабільных прыладах, пасля па тэрмометры, затым спытае ў іншых і ніколі не пераключыць канал тэлевізара на другі, калі па гэтым ідзе прагноз надвор'я.

У беларускай жа рэчаіснасці ёсць яшчэ адна таямніца, якую па сваім характары хочацца параўнаць з нездаровай падвышанай цікавасцю гараджаніна да прагнозу надвор'я. І таямніца гэтая гэтак жа сама застаецца неразгаданай з пункту гледжання псіхалогіі і ўвогуле загадкавасці чалавечай, а ў гэтым выпадку беларускай натуры. Я маю на ўвазе выбары. Ці дакладней сказаць так званыя выбары. Вось толькі старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь Лідзія Ярмошына заварушылася, як уся цікавасць палітычна заангажаванай супольнасці пераключылася туды. Цікава, маўляў, што яна скажа?! На калі абвесціць выбары і якія?! Ці будуць парламенцкія выбары ў Беларусі праходзіць разам з прэзідэнцкімі, ці іх развядуць па розных кутах як баксёраў пасля гонга?!

Хочацца спытаць, а якая вам розніца? Ці можа каму яшчэ невядома хто застанецца пры ўладзе пасля выбараў? А можа сумна жыць стала без арыштаў, пераследаў, АМАПаўскіх дубінак і ветлівых усмешак кандыдатаў ад апазіцыі з-за кратаў?! Ну вось якая розніца што там за надвор'е за акном для чалавека, які выходзіць з кватэры з тэмпературай 22 градусы па Цэльсію, прыязджае на працу дзе тэмпература зноў жа 22 градусы, і дабіраецца туды на аўтамабілі, у салоне якога ўсё тыя ж 22 градусы? Якая розніца калі будуць выбары для чалавека, які дакладна ведае, што пасля выбараў ён прачытае ў спісе пераможцаў усё тыя ж самыя прозвішчы, якія былі там і да выбараў?

Мне здаецца, што гараджаніна мусіць цікавіць не тое, што за акном, а колькі каштуюць паслугі, якія дазваляюць яму ўвесь час знаходзіцца ў тэмпературным рэжыме 22 градусы па Цэльсію, з уключаным тэлевізарам, інтэрнэтам і халадзільнікам. Раз ён бяссільны ўплываць на надвор'е ў прынцыпе, то ўплываць на кошты паслуг ЖКГ нейкім чынам можна. Хаця б з таго боку, каб яны цябе не надурылі! Праверыць квіткі, хаця б! І гэта прынясе значна больш карысці, чым татальны і бесперапынны кантроль за прагнозам надвор'я. Вось нешта падобнае і ў палітыцы. Напэўна трэба задумацца на што мы можам рэальна паўплываць і стварыць сабе магчымасці для такога ўплыву, а не пераключаць усю ўвагу на ўжо прайграныя ў бліжэйшай будучыні выбары.

Ну а для тых, хто не зразумеў пра што я тут нагрызмоліў, або ў прынцыпе не пагаджаецца з маімі высновамі паведамляю, што старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына на такім доўгачаканым многімі палітыкамі з'ўленні на людзях паведаміла, што прэзідэнцкія выбары ў Беларусі пройдуць не пазней чым 30 жніўня 2020 года. А парламенцкія не пазней чым 6 верасня 2020 года. Ну і што вам гэта дало? Здаецца і без яе гэта ведалі.

А яшчэ яна паведаміла, што згодна з заканадаўствам не ЦВК вызначае дату, а зусім іншы чалавек. Ну дык і гэта было вядома. Нават калі б заканадаўства і патрабавала ад таго ЦВК вызначэння гэтай даты, то і тады мы ведалі б, што не яно вызначае.

Ну а надвор'е на бліжэйшы тыдзень прагназуюць даволі цёплае для гэтай пары года. Сам правяраў па мабільных прыладах, глядзеў па тэрмометры, пытаўся ў знаёмага і бачыў па тэлевізары.

Віктар САЗОНАЎ

# Чаму Гайнаўка?

У суботу адбыўся ў Гайнаўцы гадавінны Марш Памяці праклятых жаўнераў, у чацвёрты раз арганізаваны асяроддзямі польскіх нацыяналістаў. Хто прадстаўляе іх — справа не да канца зразумелая. Я не маю на ўвазе людзей, звязаных з нацыянальным рухам. Яны вядомыя шырокай грамадскасці. Хутчэй няясная іх свядомасць, ці лепш — гістарычная разумнасць. Асабліва з пункту гледжання аднаўлення ў 90-х гадах дваццатага стагоддзя Польшчай сапраўднага суверэнітэту і яе віднага цывілізацыйнага прагрэсу, звязанага з далучэннем да Еўрапейскай Супольнасці. У любым выпадку гэтай дыскрэтна пастуляванай з гістарычнай разумнасці так не хапае як нацыяналістам, так і цяперашняму ўраду. Горш за ўсё, што гістарычная палітыка апошняга выключае грамадскі дыскурс пра першых. Няважна, ці будзе ён месца падчас дыскусійных панэляў гісторыкаў, палітыкаў, ці на вуліцы. З праславутай «вуліцы», дарэчы, я б не абдзіраў годнай і ганаровай разумнасці, якую нясуць спантанныя эмоцыі натоўпу. Яны не абавязкова мусяць быць радыкальнымі або проста дурнымі. Да таго часу, пакуль шчырую артыкуляцыю натоўпу не засвояць вулічныя махляры, розныя трыбуны, прапаведнікі і палітычныя апантанцы, яна абгрунтоўваецца ясна і разумна, як навуковыя аргументы прафесараў акадэміі навук. Праблема заключаецца ў тым, што з натоўпам немагчыма дыскутаваць, таму што ён шматгаловы. Але трэба ў тую поліфанію (а часам толькі ў злавеснае або балючае маўчанне) услухоўвацца. Ужо досыць гэтага, каб захапіцца яго калектыўнай разумнасцю. Шкада, што такую няўлоўную...

На вуліцах Гайнаўкі ніхто не хацеў услухацца ў маўчанне натоўпу выпадковых разявак. Або дакладней крытычных назіральнікаў Маршу памяці. А гэта было сапраўды балючае маўчанне. Бо чаму польскія нацыяналісты арганізуюць свае шэсці ў Гайнаўцы, а не ў «праПіСаўскім» Беластоку, дзе «Бурага» «суд паказальна прыгаварыў да смерці?» Ці выбар левай Гайнаўкі быў палітычна вымушаны на іх?

Гайнаўка — польска-беларуска-перыферыйны горад. Тут кожны ведае кожнага, а калі не ведае, распытае пра яго ў трэцяй асобы. Ананімнасць у Гайнаўцы — сінонім Чужасці. Але Чужасць з'яўляецца сінонімам Іншага. У гайнаўскім паняцці Іншы не абазначае аўтаматычна Чужога. Першае выключае другое, калі перастае існаваць Ананімнасць. З таго гайнаўская адкрытасць да розных рэлігій, светапоглядаў, ідэалогій. Не існуе, магчыма, больш культурна памяркоўнага месца ў Польшчы, чым Гайнаўка. У сувязі з гэтым яна паказвае сапраўды звышеўрапейскі характар. Тое ж самае можна сказаць і пра Дубічы-Царкоўныя і іх ваколіцу. І, напэўна, аб усім усходнім Падляшшы. Напэўна, не па волі гайнавян праходзяць у іх горадзе нацыяналістычныя Маршы памяці, тыя парады Чужых. Што яны могуць адчуваць, гасцяўшы ў сябе дома — хто канкрэтна? Нацыяналістаў? Неафашыстаў? Неагітлераўцаў? Фактычна, гайнаўскімі вуліцамі ў чацвёрты раз прайшло шэсце каля 300 асоб, у асноўным ананімных людзей сабраных з усёй Польшчы і скандуючых: «To my, to my, Polacy!». Фактычна, маршу патранавалі пост'ялцінскія вупыры польска-польскай вайны, «Буры», «Агонь» і іншыя — героі ці антыгероі нацыянальнай гістарыяграфіі? Гэтаму маршу Чужых патранаваў таксама асабіста Пётр Рыбак, славуты вулічным падпаленнем саламяных чалавечых пудзіл і сцяга Еўрасаюза. Праўда, падпальваў іх у іншых гарадах, чым Гайнаўка, але дым, які тады выклікаў, не растварыўся ў паветры, а праз своеасаблівыя спірытыстычна-мартыралагічныя цыркуляцыі спалучыўся з дымам з камінаў Аўшвіц ці Біркенаў, і тыя дымы на працягу многіх дзесяцігоддзяў ляжаць над Польшчай хмарай смогу. Здавалася б, гэтыя два «дымныя» аспекты польскага шавінізму не датычаць Гайнаўкі. Памерлы ў 1987 г. у Варшаве Зыгмунт Мыцельскі, польскі граф герба Далэнга, публіцыст і шматгадовы рэдактар часопіса «Kwartalnik Muzyczny», сцвярджаў, што гераізм палякаў супраць іншых народаў з'яўляецца ўнікальным, нават неверагодным, але іх маральная адвага, якая выяўляецца правільным стаўленнем у грамадзянскім жыцці — больш чым пасрэдная. Яго словы я цытую з памяці, але думаю, што захаваў іх правільны сэнс. Палякі да гэтага часу не сабраліся на грамадзянскую мужнасць, каб палічыцца з дэманамі гістарычнага мінулага; з антысемітызмам і ксенафобскай варожасцю наогул да ўсіх народаў заблытаных з гісторыяй польскага народа.

Міраслаў ГРЫКА



## Сваімі вачыма

# Не героі

Чарговы раз гайнаўскі марш выклятых жаўнераў прыцягнуў да сябе ўвагу польскіх і беларускіх медыяў, палітыкаў, жыхароў Польшчы, беларускага міністэрства замежных спраў. Памяць пра трагічныя дзеянні некаторых важакоў польскага збройнага падполля пасля Другой сусветнай вайны на Беласточчыне ў дачыненні да мірнай беларускай грамадскасці з'яўляецца важным элементам нашай гістарычнай беларускай памяці Беласточчыны. Побач з бежанствам з'яўляецца яна тым трагічным фактарам, які выбудоўвае нацыянальную тоеснасць чарговых пакаленняў.

Для маёй сямейнай памяці і маіх аднавяскоўцаў назаўсёды застануцца ўспаміны пра спаленне нашай вёскі Доўгі Брод разам з Вілюкамі ў маі 1945 года атрадам маёра Зыгмунта Шэндзеляжа псеўданім «Лупашка». Канец вайны абазначаў жыхарам прыпушчанскіх вёсак далейшы страх, галаданне і жабраванне па другіх вёсках, каб было чым пракарміць тадышнія вялікія сем'і, паколькі разам з хатамі былі спалены гаспадарчыя збудаванні і жывёла. Уратавацца ўдалося няшмат. Адзінай віной нашых бацькоў і дзядоў была толькі беларускасць і жаданне выканаўцаў пацыфікацыі выгнаць іх у савецкі рай. Зараз, будучы дарослым, значна лепей уяўляю ўсе тадышнія жахі, з якімі прыйшлося жыць і змагацца за выжыванне нашым бацькам. Трэба таксама памятаць, што «народная» ўлада нічым не дапамагла тадышнім ахвярам.

Прыглядаўшыся здымкам з гайнаўскага маршу, уразіў мяне адзін банер, які разгарнулі «BydgoscyPatrioci», а на якім красаваліся «героі» Рамуальд Райс «Буры» і Юзэф Курась «Агонь» і надпіс «Najwięksi Wyklęci z Wyklętych Ogień i Bury Nasi Bohaterowie». Змяшчэнне побач сябе ў якасці герояў двух найбольш злачынных і спрэчных для самых палякаў камандзіраў выклятых жаўнераў наводзіць чарговы сумнеў наконт дзяржаўнай гістарычнай палітыкі ў нашай краіне. Калі злачынствы «Бурага», непасрэдна звязаныя з намі, беларусамі, то «Агонь» запісаўся не менш крывава ў ваколіцах гарадоў Закапанэ і Новы Тарг. У сутычцы ў лютым 1947 года хацеў ён пакончыць з сабою самагубствам, але памёр ад ранення ў шпіталі. Месца пахавання дагэтуль не знойдзена. Супраць праслаўлення падгалянскага важака польскім Інстытутам нацыянальнай памяці рэзка выступае славацкі Інстытут нацыянальнай памяці. Для славакаў Юзэф Курась гэта бандыт, які мардаваў нявінных славакаў, жыдоў і палякаў. Дарэчы, у вёсцы Нова Бяла пастаўлены помнік памардаваным атрадамі «Агня». Супраць услаўлення гэтай асобы вельмі моцна пратэстуе аддзел Сусветнага саюза жаўнераў Арміі Краёвай у Новым Таргу, бо на сумленні «Агня» ёсць і жаўнеры гэтага фарміравання. Дарэчы, у час вайны падпольны суд Арміі Краёвай прыгаварыў сённяшняга героя да кары смерці за дэзерцірства.

Таму на Падгаллі памяць пра «найбольшага з выклятых» вельмі моцна разыходзіцца з медыйнай прапагандай і псеўданавукай. Тое, што эмоцыі не гаснуць, а наадварот узрастаюць, сведчыць прыклад пастаўленага яму і яго падначаленым у 2006 годзе помніка ў Закапанэ. Менавіта 23 верасня мінулага года помнік быў абліты чырвонай фарбай, а вакол помніка былі раскінутыя лістоўкі, у якіх прадстаўлялася іншае вымярэнне дзейнасці Юзэфа Курася.

І літаральна зусім нядаўна 11 лютага 2019 года Акруговы суд у Новым Сончы адхіліў хадайніцтва аб выпраўленні крыўды, здзейсненай таталітарнай сістэмай, для сына «Агня». Збігнеў Курась патрабаваў мільёна злотых кампенсацыі для сябе і 50 тысяч для збудавання сімвалічнай магілы. Суд сцвердзіў, што на запыт суда кракаўскі аддзел ІНП даслаў яму вельмі агульныя матэрыялы, на аснове якіх пры так спрэчнай асобе гэта недастаткова. Аддаем голас суддзі:

— Nie uzyskano tego rodzaju danych, które mogłyby pozwolić sądowi na ustalenie stanowczych, kategorycznych i samodzielnych ustaleń oceniających, czy charakter działań Józefa Kurasia „Ognia" miała charakter działalności na rzecz niepodległego bytu państwa polskiego czy też stanowiła zaprzeczenie tego rodzaju działalności. Józef Kuraś do dnia dzisiejszego jest postacią kontrowersyjną, a jednocześnie jego osoba doczekała się szeregu różnych opracowań i wydawałoby się, że ta informacja Instytutu Pamięci Narodowej powinna być jednak nieco szersza — mówiła uzasadniając wyrok sędzia Anna Pater.

Без каментарыя.

Яўген ВАПА

# Свята роднай мовы з беларускай дыктоўкай

**Больш за 60 асоб напісала сёлета дыктоўку з нагоды Дня роднай мовы. Ужо сёмы раз святкаванні прайшлі ў комплексе школ імя святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Сёлетнія тэксты прысвечаныя былі памяці архімандрыта Гаўрыіла са скіта святых Антонія і Феадосія Пячэрскіх у Адрынках на Беласточчыне, які 22 лістапада пайшоў з жыцця. Мерапрыемства, якое запачаткавала настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко, з году ў год становіцца штораз больш папулярным.**





Віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень, старшыня БГКТ Янка Сычэўскі, дырыжор Ала Каменская, саветнік пасольства РБ у Польшчы Юры Калабухаў, дырэктар школы Лена Лаўнічук

### Трансгранічная дыктоўка

Першая дыктоўка з нагоды Дня роднай мовы ў праваслаўнай школе мела агульнашкольны характар. Зараз можна назваць яе трансгранічнай. Сёлета ў мерапрыемстве прымалі ўдзел вучні, якія вывучаюць беларускую мову ў Нарве, Залуках і гімназіі № 7 у Беластоку, а таксама госці з берасцейскага абласнога ліцэя.

— Прыемна чуць беларускую мову па-за межамі Беларусі. Цешыць тое, што родная мова жыве, што гэтай мовай карыстаюцца, — сказала дырэктар берасцейскага ліцэя Наталля Каліноўская. — З вуснаў дзяцей са школы імя Кірылы і Мяфодзія так лёгка яна гучыць. Дзеці спяваюць на ёй, дэкламуюць вершы, ставяць тэатральныя пастаноўкі, гэта ўсё выклікае толькі станоўчыя эмоцыі і радуецца сэрца і душа, таму што беларуская мова жыве.

Дырэктарка школы ў Берасці прывезла падарункі з Беларусі вучням беластоцкай школы.

— Ведаючы, што мы едзем на свята роднай мовы і што 75% вучняў гэта дзеці беларусаў і яны вывучаюць беларускую мову, вядома, мы і накіраваліся ў кніжную краму для таго, каб закупіць падарунак, — сказала Наталля Каліноўская. — Гэта кнігі на беларускай мове. Ведаем, як тут цёпла ставяцца да беларускай мовы, што беларускай мове навучаюцца дзеці рознага ўзросту. Так мы і падбіралі літаратуру, каб кожны вучань мог нешта для сябе знайсці. Гэта дзіцячая літаратура, беларускія народныя казкі, пабытавыя казкі, гэта літаратура пра жывёльны свет, свет прыроды, гэта і кніжкі больш сучаснага жанру, а таксама пра беларускую кухню. Вось такі атрымаўся ў нас падарунак і мы ўпэўненыя з настаўнікамі беларускай мовы, якія працуюць у школе імя свсв. Кірылы і Мяфодзія, што вучні будуць карыстацца гэтай літаратурай.

Сумесная праца паміж Берасцейскім абласным ліцэем імя Машэрава і Комплексам школ святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку цягнецца з 2016 года. Тады адбыўся першы візіт, падчас якога бакі падпісалі дамову пра міжнароднае супрацоўніцтва. Гасцей з Беларусі таксама цікавіць, як польскія калегі выкарыстоўваюць духоўную скіраванасць установы ў арганізацыі навучальнага працэсу.

—Тут дзеці вывучаюць беларускую мову і гэта важны чыннік для супрацоўніцтва, — заўважыла дырэктар берасцейскага ліцэя Наталля Каліноўская. — Прыемна, што ў гэтай школе вывучаецца беларуская мова. Напэўна для нашых вучняў гэта вельмі станоўчы прыклад таго, што дзеці гавораць па-беларуску. Ну і, канешне, што ў дадзенай школе вялікая ўвага надаецца духоўнаму выхаванню. Гэта важна і для нас таксама, таму што хочацца выхаваць не толькі адукаваную, але і цэласную асобу.



Браты Кутузавы, пасярэдзіне Іван Корсунскі




Іаанна Марко

### Свята роднай мовы

— Для мяне родная ўкраінская мова, — сказаў Владэк са школы ў Нарве, які сам нарадзіўся на ўсходзе Украіны. — Але ў нас падобная граматыка, таму чакаю добрага выніку дыктоўкі.

— Яна простая, яна пластычная, з яе можна рабіць многа рэчаў, — дадаў Іванка. — Для мяне родныя беларуская, расійская і польская мовы.

— Ну, як? Ты радзіўся ў трох краінах наraz? Роднай можа быць толькі адна мова, — спрачаўся Владэк.

Мерапрыемства стала нагодай і для такога тыпу дыскусіі. Таксама вельмі станоўчае ўражанне зрабіла на вучнях са школы ў Залуках, якія ўпершыню прынялі ўдзел у мерапрыемстве (аб гэтым больш падрабязна на старонках «Зоркі»). Цікава было пабываць на мерапрыемстве таксама вучням з Беларусі.

— На жаль, нам сёння лягчэй размаўляць на іншых мовах чым на беларускай, — сказала вучаніца берасцейскай школы Іаанна. — У Берасці папраўдзе яе можна пачуць перш за ўсё ў школе на ўроках беларускай мовы. Шкада. Цешуся, што магла тут пабываць і таксама напісаць дыктоўку. Сёлетняя дыктоўка прайшла пад патранатам Тыднёвіка «Ніва», Беларускага Радыё Рацыя і тэлеканала Белсат

Тэксты чыталі журналісты Лукаш Сцепанюк і Зміцер Кармазін з Беларускага Радыё Рацыя. Дарослым тэкст дыктавала дырэктар Наталля Каліноўская. Менавіта ўжо некалькі гадоў запар на мерапрыемства запрашаюць таксама беларускіх грамадскіх дзеячаў і журналістаў. Сёлета дыктоўку пісаў, між іншым, саветнік Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы Юры Калабухаў, віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень.

— Хваляванні бываюць заўсёды, калі паддаешся на ацэнку ведання мовы. Але ж гэта вельмі важная справа, каб удзельнічаць у свяце школы, якая гэтую традыцыю падтрымлівае — у дзень святкавання Дня роднай мовы праводзіць дыктоўку, — сказаў віцэ-старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень. — Калі толькі атрымліваем запрашэнне, з вялікім задавальненнем і ахвотай удзельнічаем у свяце, каб і для сябе самога праверыць наколькі родную мову на той момант ведаю, але і каб паказаць і заахвоціць іншых, што варта ёю карыстацца.

Васіль Сегень і Юры Калабухаў дыктоўкі напісалі беспамылкова. Усе апошнія ўдзельнікі зрабілі не больш чым адну памылку, таму кожны атрымаў віншавальны дыплом.

Дзень роднай мовы ў праваслаўнай школе гэта амаль цэлы дзень розных падзей, якія суправаджаюць дыктоўку.

— Дыктоўка праводзіцца кожны год у Дзень роднай мовы і мушу сказаць, што з кожным годам удзельнікаў становіцца больш і больш. Але Дзень роднай мовы гэта не толькі дыктоўка, але таксама выступы дзіцячых калектываў, сустрэчы і падарункі. Гэтым я хачу ім усвядоміць, што іх роднай мовай з'яўляецца беларуская літаратурная або дыялектная, — сказала арганізатарка свята, настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко. — Так размаўляюць іх бабулі, у хаце вельмі часта іх сям'я. Маю надзею, што так застанецца.

Сёлета дыктоўку папярэджвала мастацкая частка. На сцэне можна было пачуць песні ў выкананні школьнага хору, які вядзе Ала Каменская. Беларускамоўны спектакль паказалі вучні школы ў Нарве, якіх як заўсёды выдатна падрыхтавала настаўніца Ніна Абрамюк. Гэтыя ўжо вопытныя акцёры выступілі ў прыгожых вышываных і народных касцюмах.

Для ўсіх удзельнікаў былі падрыхтаваны ласункі, а на канец вучні запрасілі сяброў з іншых школ у гімнастычны зал, дзе прайшла дыскатэка.

Дзень роднай мовы ў праваслаўнай школе імя святых Кірылы і Мяфодзія стаў ужо пастаянным мерапрыемствам у культурным беларускім календары.

— Маем яшчэ шмат планаў, як пашырыць і развіваць нашае мерапрыемства, — сказала на канец Іаанна Марко. — Спадзяюся, што ўдасца прынамсі частку з іх рэалізаваць у наступным годзе.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Галіна Максімюк:

## Па-падляшску мне пішацца так, як дыхаецца

**Размова з Галінай Максімюк з Прагі, якая нядаўна прэзентавала ў Нарве, Гайнаўцы, Беластоку і Бельску сваю кнігу „Biêlśk, Knorozy, Ploski (i inšy vjoski)”, напісаную па-падляшску (po-svojomu).**

**Міра Лукша: — Пакуль пачаць пісаць свае ўласныя тэксты, Ты перакладала літаратуру з беларускай мовы на польскую. Ці не магла б Ты прыгадаць гэтыя свае літаратурныя заняткі? Што гэта было і калі?**

**Галіна Максімюк**: — Я пачала, як Ты кажаш, свае літаратурныя заняткі ад перакладу вершаў. Гэта была анталогія беларускай паэзіі „Za niebokresem Europy”, якая выйшла ў Беластоку ў 1998 годзе. Мой удзел у гэтым праекце быў зусім сціплы: я пераклала два вершы Людкі Сільновай і адзін верш Галіны Дубянецкай. Большасць вершаў для гэтай анталогіі пераклаў Ян Максімюк, па некалькі вершаў пераклалі Аліна і Мікола Ваўранюкі.

У гэтым самым 1998 годзе ў Беластоку выйшаў зборнік кароткіх эратычных гісторый Адама Глобуса „Demonokameron”. Мой удзел як перакладчыцы ў гэтым калектыўным праекце (14 чалавек перакладалі!) быў больш заўважны. Я пераклала паўтара дзясятка апавяданняў і прыняла даволі актыўны ўдзел у рэдагаванні перакладаў іншых, разам з маім мужам Янам Максімюком. Дарэчы, Ты ж таксама перакладала для гэтага выдання.

Праца над гэтай кнігай запомнілася мне файнай прэзентацыяй выдання, якая адбылася ў чэрвені 1998 года, з удзелам аўтара і некаторых яго перакладчыкаў, у Тапіле на ўскраіне Белавежскай пушчы. Выпала гэта ў час, калі мы з мужам пастанавілі пераехаць з Беластока ў Прагу ў Чэхіі, дзе Ян атрымаў працу на Радыё Свабода. Падчас прэзентацыі Ян быў ужо журналістам Радыё і прыехаў у Тапіла з Прагі, а я тады якраз хвалявалася і рыхтавалася да пераезду, які наступіў праз два тыдні пасля пушчанскай прэзентацыі Глобусавых „дамавікоў” на польскай мове.

І тады яшчэ, у Тапіле, я пазнаёмілася з вельмі таленавітым чалавекам, мастаком Алегам Кабзаром з Бельска. Як аказалася гадоў праз дваццаць, гэтае знаёмства дало надзвычай важны для мяне вынік.

Ну і потым, калі мы ўжо жылі ў Празе, я пераклала тры кароткія апавяданні Уладзіміра Арлова для кнігі яго прозы, якая пад загалоўкам „Requiem dla piły motorowej” з'явілася ў 2000 годзе ў Беластоку. Гэта была першая нагода, калі я перакладала прозу гэтага дужа цікавага беларускага аўтара...

**— Усё гэта нараджалася ў час семінараў «Бязмежжа» і выдавалася Беларускім саюзам у Польшчы. А былі і іншыя нагоды?**

— Так. Недзе ў сярэдзіне нулявых ва Вроцлаве арганізацыя пад назвай Калегіум Усходняй Еўропы заснавала нешта накшталт „беларускай бібліятэкі” — серыі перакладаў беларускай літаратуры на польскую мову. У гэтай серыі выйшаў ці не тузін перакладаў беларускай прозы і паэзіі. Як перакладчык, вельмі шмат зрабіў там мой муж, які перакладаў беларускіх паэтаў і празаікаў, у прыватнасці, Андрэя Хадановіча, Алеся Разанава, Ігара Бабкова, Валянціна Акудовіча і Уладзіміра Арлова.

У гэтай серыі давялося паўдзельнічаць і мне. Разам з Янам і Кастусём Бандаруком, калегам майго мужа на Радыё Свабода, мы падрыхтавалі выданне прозы Уладзіміра Арлова пад назвай „Kochanek Jej Wysokości”, для якога я пераклала тры тэксты, у тым ліку загалоўны і даволі вядомы „Краявід з ментолавым пахам”. Ну і тады ўжо пашэнціла мне сустрэцца з самім пісьменнікам — і ва Вроцлаве, і ў Празе.



Галіна Максімюк і Алег Кабзар у Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку, 21.02.2019





І яшчэ, супольна з мужам, мы пераклалі для Вроцлава кнігу эсэ цікавага і неардынарнага беларускага мысляра Валянціна Акудовіча. Кніга называецца „Dialogi z Bogiem”.

**— Значыць, калі Ты стала пісаць пасвойму, ты ўжо не была літаратурнай дэбютанткай?**

— Пачакай. Да гэтага дойдзем. У мяне яшчэ быў эпізод з літаратурным перакладам на беларускую мову. У пачатку нулявых у Беластоку з'явіўся вельмі цікавы, але недаўгавечны часопіс (ці, можа, літаратурны альманах) пад назвай „Правінцыя”. „Правінцыя” мела чатырох рэдактараў і генератараў выдавецкіх ідэй: Аляксандра Максімюка з Беластока (галоўны), Алеся Аркуша з Полацка ды Сяргея Шупу і Яна Максімюка, якія працавалі на Свабодзе ў Празе. Для трэцяга нумару гэтай „Правінцыі”, які так і не выйшаў друкам, я пераклала на беларускую мову навелу чэшскага пісьменніка Яраслава Гаўлічка „Пагібель мястэчка Альшыны”. „Правінцыя”, як я сказала, на другім нумары спыніла сваё эфемернае існаванне, і мой пераклад у выніку выйшаў у менскім часопісе „Архэ”. Яго можна пачытаць яшчэ на інтэрнэтнай старонцы Litaratura.org, якую заснавалі згаданыя браты Максімюкі і Шупа.

**— Табе не рупіла перакладаць менавіта на беларускую мову? Або і пісаць сваё па-беларуску?**

— Не. Пасля перакладу навелы Гаўлічка, які адняў у мяне год (а потым яшчэ добра папацелі над ім мае рэдактары, Ян і Сяргей), я зразумела, што не змагу карыстацца беларускай літаратурнай мовай настолькі свабодна і, калі можна так сказаць, настолькі хутка, каб пісаць нешта літаратурнае ці нешта літаратурнае перакладаць. А пісьменнік мусіць жа адчуваць сябе ў мове, на якой піша, свабодна, а не лезці па кожнае другое слова ў слоўнік, тлумачальны або перакладны. Бо тады адчуваецца ўся штучнасць і ненатуральнасць такой творчасці. Са мною так яно было — пішучы па-беларуску або перакладаючы чэшскага пісьменніка на беларускую, я занадта часта заглядала ў слоўнік. Гэта, як на мой погляд, выразны сігнал, што трэба спрабаваць на іншай мове, калі ўжо рука неадольна свярбіць, каб нешта пісаць ці перакладаць.

**— І тады з'явілася думка пісаць пасвойму?**

— Думка з'явілася ўжо добра пасля таго, як Ян, мой муж, распачаў у Празе сваю інтэрнэтную кампанію за наданне статусу нармальнай пісьмовай мовы гаворкам беларусаў паміж Нарвай і Бугам на Падляшшы. Ян шмат пісаў у інтэрнэце — і вострую публіцыстыку, і граматычныя тэксты, і рабіў літаратурныя пераклады ці не з дзесяці замежных моў. Я тады ўбачыла сваю родную мову ў зусім іншай перспектыве — менавіта, як поўнафарматную літаратурную мову, на якой зусім прымальна можа загучаць тэкст і Уільяма Шэкспіра, і Станіслава Лема. І я раптам адчула — Яну, гэтаму літаратурнаму ідэалісту і летуценніку, можа пашэнціць у яго „змаганні з ветракамі”, і ён пераканае нашых людзей, што пісаць і гаварыць па-падляшску публічна ў беларускіх СМІ на Падляшшы — гэта гонар і будучыня беларускага руху, а не сорам і замшэлае мінулае, прысуджанае толькі да адмірання.

І мне яшчэ спадабалася, што мой муж прапануе нармальную назву для нашай мовы — падляшская мова — каб замяніць гэтыя фальклорна-народныя этыкеткі „па-нашаму”, „па-свойму”, „па-руську”, якія бытуюць да сёння і служаць толькі для прыніжэння гэтай мовы і запіхвання яе ў штораз цямнейшыя закуткі забыцця.

Я спрабавала напісаць нешта пра сваё дзяцінства па-падляшску і адчула ад самага пачатку, што мне пішацца лёгка і натуральна, як дыхаецца. Частку са сваіх успамінаў з дзяцінства Ян апублікаваў на інтэрнэтнай старонцы Svoja.org, якую разам з братам Аляксандрам яны заснавалі ў 2008 годзе. Частку надрукаваў „Часопіс”. Тады я запытала ў мужа, літаратурнаму густу якога я больш-менш давяраю, чаго вартыя гэтыя тэксты. Ён мне адказаў у тым сэнсе, што Нобелеўскую прэмію мне за іх не дадуць, але яны могуць скласці кніжачку, якая будзе напэўна цікавай для тых нашых людзей, што ідэнтыфікуюць сваю беларускасць не з літаратурнай беларускай мовай, а якраз з падляшскімі гаворкамі Бельшчыны і Гайнаўшчыны. Ён мяне пераканаў, і да ранейшых сваіх апавяданняў, ужо апублікаваных, я дапісала жменю свежых, і такім чынам мы склалі кніжку „Biêlśk, Knorozy, Ploski (i inšy vjoski)”.

Ян яшчэ прапанаваў, каб я папрасіла ў Алега Кабзара дазволу пакарыстацца рэпрадукцыямі яго карцін Бельска для ілюстрацыі кніжкі, і такім чынам атрымалася даволі атмасфернае і густоўна аформленае выданне прозы па-падляшску (графічна кніжку аформіў Сяргей Шупа). Кніжка спадабалася не толькі мне самой, але і людзям, якія на чатырох прэзентацыях на Падляшшы раскупілі амаль увесь наклад, гэта значыць, амаль 300 штук. Давядзецца дадрукоўваць, ці што?

**— Што далей? Наступная кніжка пападляшску?**

— У „Часопісе” я цяпер публікую нешта накшталт успамінаў пра „чэшскі перыяд” свайго жыцця пад агульнай назвай „Môj ceśki film”. Калі атрымаецца давесці гэты цыкл да канца, то ёсць ідэя, каб аформіць яго ў шчодра ілюстраванае сямейнымі фоткамі электроннае выданне, якое будзе распаўсюджвацца за сімвалічную цану або і зусім задарма. І ёсць нейкая думка пра кнігу на польскай мове, але гэта ўсяго туманная ідэя, а не канкрэтны план.

Запісала **Міра ЛУКША**



# Галавакружэнне ад поспеху

Міхаіл Мясніковіч, старшыня вышэйшай палаты беларускага парламента — Савета Рэспублікі — сустрэўся з найважнейшымі асобамі Польшчы: прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, міністрам замежных спраў ды сваімі калегамі, маршалкамі Сейма і Сената. Нягледзячы на гэта, візіт беларускай парламенцкай дэлегацыі быў вельмі таямнічы. Польскі бок не даў ніякага афіцыйнага камюніке на прадмет размоў ні перад імі, ні пасля іх. Мясніковіч выйшаў да журналістаў толькі на кароткі брыфінг у Сенаце, але пытанні на гэтай сустрэчы не прадбачваліся. Толькі Яна Запольская з Радыё Рацыя змагла задаць адно пытанне ў Падляшскай оперы і філармоніі, прыгразіўшы ахоўнікам, што наробіць ім скандалу. А пытала пра пераслед сваіх калег журналістаў у Беларусі. Аказваецца, нічога Мясніковіч пра такія рэчы не ведае і абяцаў ва ўсім разабрацца.



Залешаны Фота racyja.com

Тым не менш, чым больш часу ад гэтага візіту праходзіць, тым большым поспехам ён уяўляецца. Прынамсі ў беларускіх дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. У газеце „Беларусь сегодня", якая мае яшчэ і другую, старую назву „Советская Белоруссия" пра вынікі візіту можна было прачытаць наступнае: *Будут активизированы контакты на высоком уровне, бизнес-сообществу даны позитивные сигналы. Польша поддерживает процесс улучшения отношений Беларуси с ЕС и заинтересована в скорейшем подписании Соглашения об упрощении визового режима, высоко оценивает вклад руководства Беларуси в Минские соглашения. Польская сторона готова организовать визиты в Минск министров иностранных дел стран Вышеградской группы и инициативы ЕС „Восточное партнерство", активно выступает за приглашение Беларуси на международные саммиты, в том числе на мероприятия, связанные с 10-летием „Восточного партнерства"*. Гэтая інфармацыя з'явілася якраз у момант, калі Польшча ўвайшла ў гістарычную спрэчку з Ізраілем і адмовілася ад удзелу ў спатканні Вышаградскай групы ў Іерусаліме. Пра новае — таксама не надта зручнае з палітычнага пункту погляду — месца ў Польшчы ў гэтыя дні маглі б гаварыць толькі палітыкі-самагубцы.

Міхаіл Мясніковіч сказаў таксама, што палякі будуць весці з Беларуссю дыялог наконт пабольшанага кантынгенту амерыканскіх войск у Польшчы — сімвалічнага Форта Трамп — ды, магчыма, стануць купляць электраэнергію з Астравецкай атамнай электрастанцыі. Пра амерыканскія войскі палякі гавораць толькі з амерыканцамі ды нават з саюзнікамі з Еўрасаюза неахвотна што-небудзь у гэтай справе абмяркоўваюць, тым больш — думаю — не будуць пра гэта гаварыць з Беларуссю. А наконт электраэнергіі з Астравецкай АЭС, дык Польшча неаднаразова заяўляла, што падтрымлівае пазіцыю Літвы, якая моцна апасаецца гэтай установкі ў пяцідзесяці кіламетрах ад Вільні і будзе яе прадукцыю байкатаваць. Але як яно насамрэч будзе? Час пакажа.

Калі беларускі бок адтрубіў поспех візіту, а польскі маўчыць, само сабою лезе ў галаву пытанне: навошта Польшчы быў ён патрэбны. Лепшага адказу за той, які ў Радыё Рацыя даў журналіст штодзённікі „Rzeczpospolita" я пакуль не чуў: «Варшава гатовая на поўную перазагрузку беларуска-польскіх дачыненняў, калі афіцыйны Мінск прызнае Саюз палякаў у Беларусі». Маецца на ўвазе, зразумела, непрызнаваны Мінскам Саюз палякаў Анджалікі Борыс. І хаця зрабіць яго легальным можна за пяць хвілін, адным распараджэннем Лукашэнкі, то якраз ні Мясніковіч, ні ніхто іншы ў беларускай сталіцы пра гэта не заікнуўся.

* * *

Пры нагодзе таго візіту, у святле высокапастаўленых беларускіх палітыкаў і чыноўнікаў маглі пагрэцца і некаторыя беларусы Беласточчыны. Праўда, частка іх бачыла і важнейшых людзей у Мінску, у тым самога Аляксандра Рыгоравіча, ды і тое-сёе ад яго ўжо атрымала, тым не менш чарговыя дыпломы і цёплыя словы ў такім прэстыжным месцы як Падляшская опера і філармонія добра падымаюць чалавечае эга.

Міхаіл Мясніковіч з гэтай нагоды нават пастараўся гаварыць па-беларуску: «Мы ў Беларусі вельмі ўдзячныя за тое, што вы тут арганізуеце выдатныя мерапрыемствы, якія сталі вядомымі і папулярнымі» — цытуе старшыню Савета Рэспублікі дзяржаўнае агенцтва Белта, называючы нас «дыяспарай». Дык вось, аказваецца, Мясніковіч у Беластоку не спаткаўся з беларусамі — карэннымі жыхарамі Падляшша, грамадзянамі Польшчы — а з нейкімі эмігрантамі. Працытую яшчэ адзін фрагмент паведамлення Белты: «Мы зацікаўленыя ва ўдзеле беларусаў Падляшша ў канструктыўнай, стваральнай працы на карысць шматмільённага беларускага народа. Вашая дапамога вельмі карысная. Беларусь са свайго боку будзе дапамагаць беларусам Польшчы ў захаванні і развіцці традыцый, культуры, мовы, — дадаў Міхаіл Мясніковіч, падзякаваўшы дыяспары за работу па захаванні нацыянальнай самаідэнтычнасці».

«Нацыянальнай самаідэнтычнасці» самому Мясніковічу хапіла толькі на Беласток, бо ўжо ў Залешанах, дзе складаў кветкі да помніка ахвярам Рамуальда Райса «Бурага» не натужваўся і гаварыў па-руску.

Сам жэст можна ацэньваць па-рознаму. Я, аднак, пакуль прадстаўнікі беларускай улады не наведаюць Курапатаў, не веру ў іх шчырыя пачуцці да нашых ахвяр. Тым не менш, цікава было пра яго прачытаць на той жа Белце: «Перад сустрэчай з дыяспарай каля помніка ў вёсцы Заляшаны парламенцкая дэлегацыя аддала даніну памяці загінулым». І ўсё! Ані слова больш. Гэта, на жаль, упэўнівае мяне ў вельмі павярхоўным разуменні Мінскам нашых праблем і чыста палітычным выкарыстанні закалота з польскімі нацыяналістамі. А не хапае нам у гэтай справе толькі «заступніцтва» Мінска.

**Мікола ВАЎРАНЮК**



Фота racyja.com

Беласток

## Не цярплю хітруноў і ашуканцаў

Апошнім часам прыходзіцца мне «ваяваць» з рознага віду махлярамі і прайдзісветамі, якія намагаюцца выманіць ад чалавека грошы. Аб праблемах з Альёр-банкам «Ніва» ад 10 лютага надрукавала мой допіс «Каму паскардзішся?». Мая валакіта з высвятленнем справы доўжылася больш за два гады. Праўда аказалася на маім баку. Я ў пасланай рэкламацыі дапамінаўся ад банка вярнуць грошы за нявыкананую ахову страхавання. І вось паступіў адказ. Было гэта 19 лютага. У службовым пісьме спецыяліст па справах рэкламацыі і скарг цэнтральнага Альёр-банка інфармавала, што прад'яўленая заява была разгледжана 15 лютага, у выніку чаго прынята рашэнне вярнуць 2038,27 зл. пабранай сумы страхавання 19.05.2016 года, таксама працэнты за падоўжаны тэрмін высвятлення справы 280,05 зл. У заключэнні спецыяліст прасіла прабачэння за паслядоўнасці, якія ўзніклі ў час звыштэрміновага чакання і выявіла спадзяванні, што гэта не паўплывае на далейшыя станоўчыя кантакты з банкам.

Другога станоўчага выніку дабіўся я ў змаганні з чыноўнікамі лічбавага тэлеканала «Польсат», якія намагаліся выманіць ад мяне павышаны абанемент, на які я не пагаджаўся. Калі я патрабаваў прад'явіць запіс размовы з кансультантам, дык лічбавы «Польсат», каб не страціць сваю вераготнасць, рашыў, што заключаная па тэлефоне дамова прызнаецца несапраўднай. У сувязі з гэтым я застаюся пры сваім даўнейшым абаненце дваццаць злотых за «Сямейны» пакет, а не 45,00 зл. за «Фамільны». Застаецца яшчэ нявырашанай рэкламацыя з тэлекамунікацыйнай фірмай «Орэндж», якая дапамінаецца ад мяне 288,67 зл. за неаплачаныя рахункі за пастаўку электрычнага току за паўгадовы тэрмін у 2018 годзе. У мяне знаходзяцца пацверджаныя банкам рахункі. Што цікава, рахункі паўгадавога разліку (з пераплатай) я атрымаў ад фірмы «Орэндж». Гэтыя дакументы ў доказ сваёй вераготнасці я прад'явіў у тэлекамунікацыйную ўстанову. Ад 4 студзеня гуляем з «Орэндж» у жмуркі. 21 лютага паслаў рашучае патрабаванне высвятлення пратэрмінаванай платы 288,67 зл. Калі не атрымаю тэрміновага адказу, у адпаведнасці з арт. 35 § 1-3 Адміністрацыйнага кодэкса, дык справу перадам для расследавання Павятовому заступніку спажыўцоў у Гайнаўцы. Так вось, даражэнькія, справы маюцца ў нашай сучаснай дэмакратыі.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Я з „Нівай" амаль кожны дзень

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета беларускі штотыднёвік „Ніва" прывозяць у крамы ГС і „Аргелян" ды на пошту ў некалькі дзясяткаў экземпляраў. Купляюць яе некаторыя жыхары Альхоўкі, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Лешукоў, Нараўкі, Новін, Падляўкова, Плянты і Семяноўкі. Найбольш купляе яе сваім суседзям з Новага Ляўкова ды некаторым жыхарам іншых вёсак ніжэй падпісаны гмінны радны.

І так, „Ніву" № 7 ад 17 лютага гэтага года чыталі 25 асоб, у тым ліку новы солтыс Артур Харкевіч з сям'ёй, Аляксандра і Юрый Ляшчынскія, Малгажата і Славамір Смольскія, Ірэна і Мікалай Лаўрэшукі, Лідзія і Юрый Трусевічы, Ніна і Мікалай Целушэцкія, Крысціна і Ян Грэскі, Люцына і Зіна Садоўскія , Яўгенія Смольская, Ірэна і Яўген Харкевічы, Зіна Рубчэўская, Альжбета Сахарчук, Зіна Сахарчук ды Эва Дзеніс з Новага Ляўкова, Валянціна Самойлік, Канстанцін Ярошук з Новін, Вера Клімюк ды Зіна і Ян Барэчкі з Плянты, Валянціна Сухадола з Нараўкі. Яны прачыталі перш-наперш усе допісы, якія датычылі Нараўчанскай гміны, Гайнаўкі і Гайнаўскай гміны.

15 лютага г.г. (Грамніцы) я даведаўся, што ўсе экземпляры „Нівы" выкупілі на пошце ды ў крамах ГС і „Аргелян" у Нараўцы. Раніцай былі яшчэ па адным экземпляры на пошце і ў краме ГС каля помніка. Усе экземпляры „Нівы" купілі ў кіёску і бары ў бальніцы ў Гайнаўцы. 19 лютага г.г. паехаў я ў Беласток у рэдакцыю „Нівы" і прывёз сем экземпляраў нашага беларускага штотыднёвіка. І іх купілі.

Я родны часопіс бяру з сабою ў дарогу і ўсюды там, дзе магу сустрэць ніўскіх чытачоў. Так вось 19 лютага г.г. ехаў я з Гайнаўкі ў Новае Ляўкова. Гэтым самым аўтобусам ехала пасля працы дадому Валянціна Сухадола з Нараўкі. Яна спявае ў стараляўкоўскім калектыве „Цаглінкі" і яна наша чытачка. У Гайнаўцы „Нівы" не купіла, бо ўжо не было ў продажы. Купіла ў мяне.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Дзень роднай мовы ў бельскай «тройцы»

21 лютага свет святкуе Дзень роднай мовы. У беларускай школе ў Бельску-Падляшскім сярод самых цікавых спосабаў адзначэння гэтага свята з'яўляецца беларуская дыктоўка. У кабінеце беларускай мовы сабраліся вучні пачатковай школы і гімназіі (частка з іх — выдатныя спартсмены, якіх чакалі ў той дзень яшчэ спартыўныя спаборніцтвы), каб напісаць дыктоўку, якой тэкст прачытала настаўніца Валянціна Бабулевіч.



— Шчыра віншую вас з Днём роднай мовы, — прывітала перад дыктоўкай вучняў дырэктарка Ірэна Яблушэўская. — У нашым стагоддзі важнае, каб чалавек валодаў не адной мовай. А самай блізкай павінна быць наша родная мова. Памятайце, што беларуская мова гэта мова вашых бацькоў, дзядоў, і вы павінны яе ведаць і шанаваць яе.



— У мінулым годзе пісалі мы дыктоўку пра слова. Дыктоўка ўсім пайшла нядрэнна, шмат было беспамылковых прац. Сёння напішам пра мову.



Настаўніца зрабіла такі «мык», што тэкст два дні вісеў на дошцы аб'яў у класе. Хто чытае навіны на дошцы, мог на яго кінуць вокам. Гэта тэкст на тэму мовы, які напісаў Вацлаў Ластоўскі яшчэ на пачатку дваццатага стагоддзя.

«Наша мова. Чаму мы гаворым беларускай мовай? Бо чалавеку наймілей чуць і гаварыць сваёй роднай мовай. Якая ж яна — наша мова? Наша мова адна з найчысцейшых у славянскай сям'і моў... Яна прыгожая, мілагучная, гнуткая, праз што вельмі надаецца да паэзіі і спеваў...» — вучні схіліліся над лістамі, а амаль веснавое сонца, што гарэзліва забягала ў клас, асвятляла засяроджаныя твары і самапіскі, што спраўна слізгаліся па паперы.

— Ці цяжкай была дыктоўка? — спыталіся мы ў Ганны Гадзінскай, Вікторыі Гаць, Дзям'яна Бусловіча і Паўліны Ёдлы.

— Зусім няцяжкая, — сказала Ганна. — Самая цяжкая справа — знакі прыпынку. Я лічу беларускую мову як сваю другую, мы яе вывучаем у школе. Нашы продкі размаўлялі на гэтай мове і «па-свойму».

— Я спадзявалася, што будзе цяжэй, — усміхаецца Вікторыя. — Мне здаецца, што ўсё-такі найбольшай праблемай з'яўляюцца коскі. У дыктанце трэба было таксама зазначыць дужкі. Калі гаворка пра родную мову, я заўсёды размаўляю на ёй з маёй бабуляй, і яна вельмі цешыцца гэтым. Я часта спяваю беларускія песні, чытаю і дэкламую вершы, спрабую пісаць.

— У нас усіх ёсць праблема з пунктуацыяй, — дадае Дзям'ян. — І, вядома, трэба ведаць прынцыпы напісання «ў» і «у». На роднай мове я размаўляю на вёсцы, часта ў хаце, у царкве. Вельмі няблага атрымліваецца ў мяне таксама «па-свойму».

— Думаю, што дыктоўка ў мяне атрымалася добра, — цешыцца Паўліна. — Справа ў тым, каб самому больш пісаць. Я вельмі паважаю беларускую мову. Пазнала яе ад дзяцінства. І яна ў маім жыцці існуе ўвесь час. Бабуля і дзядуля гавораць «па-свойму», а ў школе вывучаем літаратурны варыянт нашай мовы, я яго апанавала хутчэй, на ім і пішу.

*Тэкст і фота Міры Лукшы*

УВАГА КОНКУРС!

№ 09-19

Я не чарапаха-робат,
Але працаваць люблю,
Я не слон, але ў свой хобат
З дывана ўвесь пыл лаўлю.
П......

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 17 сакавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 5: чатыры.**

**Узнагароды, велікодныя наклейкі, выйгралі** Нэля Дарпенская, Тамаш Ваўранюк **з Нарвы,** Дам'ян Карнілюк **з Бельска-Падляшскага,** Юстына Астапкевіч **з ПШ № 1 у Гайнаўцы,** Якуб Гапанюк, Юля Вілеўская, Аляксандра Кузьма, Міхал Міхноўскі, Якуб Палецкі, Юлія Клімчук **з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Пісалі і гулялі!

Вучні школы ў Залуках упершыню адсвяткавалі Дзень роднай мовы на беларускай дыктоўцы ў Беластоку. Юлька Грэсь, Майка Станкевіч, Эмілька Каранкевіч і Каміль Мартонік не без хвалявання прынялі той выклік. Аднак іх падбадзёрыла мастацкая частка перад дыктоўкай, калі школьны хор праспяваў песню «Вёсачка» гурту «Калінка» з Залук. Зрэшты, самі прачытайце, як успамінаюць Дзень роднай мовы дэбютанты з Залук:

21 лютага ў беластоцкай Непублічнай пачатковай школе імя святых Кірылы і Мяфодзія вучні чатырох школ напісалі дыктоўку. Мы думалі, што кожны да яе добра падрыхтаваўся, але таксама заўважылі, што многія, мы таксама, нерваваліся. Некаторыя нават узялі з сабою амулеты, якія мелі гарантаваць ім паспяховасць, а ў гэтым выпадку — беспамылковасць. Дыктоўку таксама пісаў Лукаш Хіліманюк са школы гаспадароў (прывітанні!), які нервы супакойваў... яйкам. Душыў ён гэтае яйка ў руцэ, а калі кінуў з цэлай сілаю на падлогу — яйка прыклеілася. Гэта кітайскі каўчук — ніколі не трэсне!

Мы пісалі дыктоўку ў старэйшай групе. Тэкст расказваў пра айца Гаўрыіла, які памёр на гэтым годзе. Славутага манаха ў тэксце ўспамінаў галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва» Яўген Вапа. Найбольш складаны быў першы сказ. Быў вельмі д-о-о-оўгі, таму было шмат просьбаў, каб рэдактар Дзіма Кармазін яго паўтарыў. Спадар Зміцер, які працуе журналістам на Беларускім Радыё Рацыя, чытаў нам дыктоўку. І так атрымалася, што першы сказ нам паўтараў разоў дзесяць, а мы дагэтуль няўпэўненыя ці правільна яго запісалі...

Пасля дыктоўкі мы пайшлі ў гімнастычную залу, дзе ўжо было шумна, гучала музыка і танцавалі вучні. Нарэшце прыйшоў час на дыскатэку. Усе вельмі добра гулялі, а нават з'явіліся новыя каханні... Больш не можам напісаць.

Аказалася, што Лукашова яйка трэснула — нават кітайскі каўчук не вытрымаў нерваў перад дыктоўкай. Усё атрымалася вельмі файна. Мы ўжо прасілі спадарыню Іаанну Марко, каб запрасіла нас на дыктоўку ў наступным годзе.

**Журналісцкі гурток са школы ў Залуках**

Фота Улі ШУБЗДЫ




(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Лісіца і прыманка

Убачыла аднойчы ліса як чалавек раскідае на дарозе кусочкі сыру і спытала:

— Навошта гэта ўсё робіш?

А ён з-пад ілба зірнуў на яе і адказаў неяк лісліва:

— Вядома, чаму! Усё гэта дзеля спасення маёй душы.

Лісіца пастрыгла вушкамі, падумала і кажа:

— Калі ты раскінуў на дарозе сыр дзеля спасення сваёй душы — гэта класна. Блаславлёная твая душа!

І дадала з хітрай усмешкай:

— Але калі робіш гэта дзеля маёй шкуры, дык гора тваёй душы. Няма апраўдання для тых, хто з дапамогай смачных прыманак і велічных слоў думае пра сваю карысць і нажыву.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Міхал АЛЕКСЯЮК
Тапаляны, ПШ у Міхалове

## Сабака

Дома ў мяне заўсёды
Мой маленькі сабачка.
Я яго Машай назваў,
Гэта цалкам невыпадкова,
Ён разам са мною,
Машку па тэлевізары аглядае!

## Чакай мяне

Чакай мяне, чакай,
Так штодзень гавару.
Але калі вярнуся,
Дык зноў яго шукай!
— Машка? Дзе ты?
Гэтак наша гульня
пачынаецца!

## Польска-беларуская крыжаванка № 09-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 5-2019:**
Таз, дзеўка, сінь, крама, вараг, адпачынак, лес, задача, мера, алес, сваяк, Агата, тон, гад, кола, акно. Акула, сто, аса, вол, зіма, мана, парк, вада, задача, рычаг, аналаг, на, ета, Ас, сад.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі **Клаўдзія Галубоўская** з Нараўкі, **Аляксандра Якімюк, Алекс Зыскоўскі, Юстына Астапковіч** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Марыя Варанчук, Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Анастасія Шэрэмэта, Ігнацы Дудар** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, **Сара Дарпенская, Оля Хіліманюк** з Нарвы. **Каміль Мартонік, Дам'ян Грэсь** з Залук. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Om | | Powodzenie | Kolonia | | Baba | Aby / Złoto | | | |
| Muchy | | | | | | | Woźnica | | Brama |
| Data | Dąbrowa | | | | | | | | Antoni |
| Dogma / Chce | | | | | Lama / Fant | | | | |
| | | | | Bażant / Bis | | | | | |
| Herbata | | | | | | | | | |
| Pomost | | | Mnich | | | | | | |
| | | | | | | | Jan | | |

# Жыды добра вучыліся

Успаміны **Уладзіміра ПАСЕЧНІКА**, пенсіянера з Орлі, 1929 года нараджэння.



Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

### Санацыя

Пры санацыі, а і пазней, людзі не мелі ботаў. Да працы ў полі некаторыя рабілі сабе такія шкарпэты. У царкву ішлі басаnож, толькі перад самой царквой абувалі боты; такая ашчаднасць была. У жніво пожня была вострая, да таго ж калісь жалі нізенька, каб было больш саломы. І саломы не хапала на сечку...

— Гэтыя шкарпэты можна было падшыць? — дапытваю.

— Тады і шматак не было. Па-суседску з намі жыў Тхарэўскі, то ён хадзіў у палатаных нагавіцах, дзе латка на латцы былі.

### Школа

Што то за школа была. За старой Польшчы два класы скончыў і вайна. Прыйшлі саветы і зноў у школу. З малых класаў не вярталі. Дзеці былі рознага ўзросту. Брат Ваня, 1926 года нараджэння, Сцёпік Кубаеўскі з 1927 былі ў класе IIIа, а мы ў IIIб. Пры саветах давалі кожнаму вучню тран, рыбін тлушч, быў працўйны, а трэба было піць. Сшыткаў не было за што купіць, каштавалі па пяць грошаў. З савецкага часу памятаю вучня Чарняўскага з Міклашоў, заўсёды спрачаўся з настаўніцай за ацэнкі.

### Жыды ў школе

Жыды добра вучыліся, лепш чым жыдоўкі. У класе было менш жыдовак. Са мною ў парце сядзеў такі, меў вузкі лоб, добра вучыўся. У класе сядзелі жыды з жыдамі.

Жыды вельмі смярдзелі цыбуляй. Саланіны не елі, але не здаралася, каб нехта ў школе мазаў іх саланінай — гэтага не было!

### Мова

У школе жыды паміж сабою размаўлялі па-жыдоўску, а як пры дошцы адказвалі, то пры саветах па-руску, а раней па-польску. З намі, праваслаўнымі, размаўлялі па-нашаму, на тутэйшай мове.

А жыдоўская мова падобная на нямецкую. Гаварылі, што немцы і жыды то браты, а беларусы і палякі то другія браты. І тыя тых не любілі, і тамтыя тых не любілі.

### Жыды ў царскі час

Як расказвалі, пры цары жыды не мелі поўнай свабоды. Стары Тхарэўскі з Орлі пры цары быў царскім чыноўнікам у Варшаве. Расказваў, што жыд не меў права ісці тратуарам, толькі абочынай па канаве. Тратуарам маглі хадзіць толькі рускія і палякі. Старэйшыя жыды насілі бароды. Прыязджалі нарадоўцы і абрэзвалі ім бароды. Не любілі жыдоў — так расказвалі.

### Жыды пры саветах

Найбольшае разволле атрымалі жыды як прыйшлі саветы. Памятаю, як дзед Андрэй казаў: «О, цяпер мы зажывем, наша ўлада прыйшла.» А жыд адказвае: «Ты, Андрэй, авечак пасвіў і будзеш пасвіць. Ты нічога лепшага не меў, толькі пугу. То наша ўлада прыйшла. Віэтэ будзэтэ жаты, а мы будэм ліжаты, туолько полічым снопы і больш будэм міеты чым вы».

Дзядзька Сяргей раней вазіў Вайштынаў (уладальнікаў кафлярні) санкамі, а яны з дубальтоўкі стралялі зайцоў. Але калі ўступілі сюды саветы, то іх вывезлі ў Сібір.

Калі саветы адступалі, то аднаго жыда загналі на канец Орлі і там, каля Янкеля-Ямачкі забілі. Пасля жыды забралі і пахавалі.

### Сужонствы праваслаўных з жыдоўкамі

Валодзька Рынгайла ажаніўся з Шыфрай яшчэ пры санацыі. Жылі ў хаце Ярымовіча, а калі немец разагнаў, то пабудаваў сабе дом па вуліцы Вызвалення.

Павел Гонта таксама меў жыдоўку Бэйлю. Паходзіла з гэтага майго дома. Мелі двух сыноў і дачушку.

Сашачка Мартыновіч меў жонку Гітлю. Мясцовы шуцман казаў яму: «Ты выганяй тую жыдоўку і сына, бо пойдзеш разам з жыдамі». І яна пайшла. Ажаніўся недзе пасля Руздва з праваслаўнай.

Сусед, праваслаўны каваль, меў нарачоную жыдоўку. Быў кавалём, значыць быў багацейшы. Жыдоўка пытае: «Дзе сустрэнемся?» Ён адказаў: «За царквою». Бо на царкоўнае жыды, паводле іх законаў, не мелі права ўваходзіць. Гаварыла, што ведае, дзе бацька трымае грошы і што ўцякуць у Амерыку. Ейны бацька даведаўся, прыбег да кавалёвага бацькі: «Нашы дзеці так панюхаліся як лысыя коні. Давай хай жэняцца. Толькі дай мне сына ў Вільню на абразанне». Той не згадзіўся.

### У арлянскім рынку

Насупраць гасподы, дзе сёння парк, але больш у бок Цэтры, стаяў вялікі будынак пякарні. Памятаю, як мы вазілі жвір, то наш бацька даваў мне і брату 50 грошаў і казаў ісці ў пякарню купіць апаследак з макам — булку з цёмнай мукі. Каштавалі па 5 грошаў, то мы купім іх кошык і занясем іх на жвіроўню; нас было пяць хлопцаў і бацька.

Побач пякарні было маленькае пажарнае дэпо. Пасярэдзіне цяперашняга парку былі два рады крамікаў. А спераду, каля 15-20 метраў ад крамаў быў гарговы пляц, дзе прадавалі салому, сечку...

У вугле была крама жыдоўкі Мушкі — прадавала ляндрынкі, цукеркі і скупляла яйкі. А чаму? Бо ў людзей не было занадта грошай. Прыйдзе, возьме два селядцы, а дасць шэсць ці колькі там яек, яна пералічыць. Брат Мішка расказваў, што з краю стаяў мяшок і туды пустыя мяшкі складвалі. То Сэльвесь кажа: «Украдзіце тыя мяшкі, то я дам на кварту гарэлкі». І пайшлі хлопцы і тых мяшкоў не стала; да Сэльвеся пад печ. То жыдоўка: «Гевалт, пакралі мяшкі». А жыды былі дружныя, зараз сабраліся і давай шукаць, але не знайшлі.

Тавар прывозілі з Бельска фурамі. У час вялікага пажару ў 1938 годзе крамы не згарэлі. А як прыйшлі немцы, то прадалі шэсць штук аднаму.

Пры санацыі быў загад, каб усе дамы былі памаляваны сіняй фарбай. То ў нас Шайкоўскі быў найбагацейшы і адразу памаляваў. Хаты былі белены вапнай або крэйдай, а ўсярэдзіне гліняны ток пасыпалі жоўтым пясочкам.

Побач сінагогі была жыдоўская лазня — мыква. Перад сінагогай атачалі яе два высокія драўляныя жыдоўскія будынкі, але што ў іх было — невядома, мабыць нейкая школа ці дамы малітвы.

Бацька расказваў, што былі такія дні на нейкае свята, што жыды маліліся, а наймалі гоя, значыць не жыда, называлі яго гаман. Бралі, каб дазволіў апляваць сябе. То згаджаўся такі Коля, накідаў на галаву чуйку (хусту) і сядаў каля ўвахода ў сінагогу, а жыды плявалі на гэтага гоя. Добра плацілі, каля дзесяці злотаў, бо за два злоты не хацеў. Любіў ён выпіць. А пры саветах быў ён карабейнікам — давалі яму каня, ездзіў па вёсках і прадаваў нейкую драбязу.

### Жыды з суседства

Там, дзе пасля было кіно, быў дом Абля Бжэзінскага. То былі тры браты. Другі жыў, дзе Валодзька Мураўскі, каля царквы, меў сына Элі, то з яго смяяліся: «Элі хвастом мелі», а трэці жыў дзе Жэпнеўская. То былі багатыя жыды.

Жыд Ошэр пабудаваў у канцы Орлі мураваны шпіхер і там стаяў, і пытаў: «Ну, што маеш?» А людзі ехалі з Дубіч, з Тафілаўцаў, Тапароў. Везлі жыта, сырадэлю... А ён усё купляў.

Зараз па-суседску была алейня. Цяпер сусед абгарадзіў плотам і той фундаменцік прапаў у зямлі. Побач Фёдар Федаровіч меў пару коней, чорнага і чырвонага, і працаваў у жыда, алей выціскалі.

Іншы жыд дзёр яловую кару і рэзаў у сячкарні. Сельскай гаспадаркай займаліся толькі два жыды Шэпо і Вельвель, мелі коней. Сашачка Мартыновіч расказваў, што Вельвель прыязджаў вечарам, але спаць не лягаў. Прывозіў з вёсак боты для папраўкі, сядаў, стукаў, працаваў. Варыў саганец картафель. Поле меў ад Краснага Сяла да Грабаўца. Вельвель прапанаваў людзям: «Ну, заарандуй у мяне загонец поля». Памятаю яго. Мы, старэйшыя хлопцы, пасвілі коней. Аднойчы Вельвель вёз мяшкі пшаніцы, то хлопцы яму яе парассыпалі; быў стараваты і не даў ім рады.

Некаторыя жыды трымалі кароў, коз, а некаторыя куплялі малако ў праваслаўных.

### Пасля пажару

Жыдоўка Слова, ад якой пачаўся пажар, мела прыгожую хату, памаляваную сіняй фарбай. Жыды *балкаталі*, што ўсё згарэла, грошы згарэлі...

Пасля пажару бацька ўзяў на кватэру адну жыдоўскую сям'ю. У нашым другім доме, побач нашага, старэнькім, ад панадворка, жыла жыдоўка і пяцёра дзяцей. Узялі, бо тая жыдоўка была ў добрых адносінах з бацькам. Яна прасіла, а бацька сказаў: «То прыходьтэ». Памятаю, што быў высокі ладны хлопец Керман, другі хлопец зваўся Эжбэр, а трэці Срулі. І ладныя дзяўчыны Брайнэ і Сорка.

### Гета

Прывезлі паруметровыя сасновы стаўпы, укапалі, і восем калючых дратоў. І жыдоў сціснулі там і ізалявалі. Жыды тайком пераносілі туды нейкія прадукты. Немцы высылалі шуцманаў, каб лавілі жыдоў. На рацэ Арлянцы было многа кладак. Нашы шуцманы лавілі і патрабавалі грошай, напрыклад, соткі царскіх залатых рублёў. Жыды збіралі і плацілі, і тады пускалі. І так яны дажывалі. Там, дзе стаялі крамы, дзе зараз парк, не было гета.

Людзі расказвалі, што жыдоўскі хлопец уцёк з лагера і схаваўся ў былых савецкіх акопах. То солтыс з Кашалёў данёс, паказаў немцам; злавілі на багнах і забілі на могілках.

Помню, як саветы гналі немцаў у 1944 годзе, то частка ранейшага гета гарэла.

### Вывазка жыдоў

Помню вывазку жыдоў. Мы, хрысціяне, стаімо дзе сёння блочак (насупраць парку пры вуліцы Вузкай) — там тады бугарок быў. Быў лістапад, было холадна, прымаразкі, Казанская акурат. А нашы стаялі басаnож, я таксама. Ой, Божа! Немцы выгналі жыдоў на пляц, дзе раней стаялі крамы. Помню, хлапчук каля дванаццаці гадоў і дзяўчынка каля дзесяці гадоў мелі такія клуначкі, без бацькоў былі. Падышоў немец і піхануў адно і другое. А ўсе: «А-аах!», аж той пляц загаварыў.

Адзін з жыдоў, мажны мужчына, падаўся побач Юдэнрата, будынка для сходаў (на рагу дзе Сашачка), там была — як я пасля даведаўся — прыбіральня, і ўкінуў туды дзесяць залатых рублёў. Вядома гэта, бо калі стары Харуй вёз пасля яго на возе, то той жыд казаў: «Іван, табе аднаму скажу: там і там грошы залатыя загорнутыя ў хустачку ўкінуў. То там можаш паглядзець...» Але ён не шукаў, баяліся шуцманаў.

Дзядзька Сяргей вёз Вайштына ў гета. Той меў залатыя акуляры. І кажа жыду, каб даў яму тыя акуляры для захавання. Але не даў. І зараз забраў іх яму немец. Арляне давозілі жыдоў у гета, якое ў Бельску было там, дзе пасля была камендатура міліцыі.

У Бельску немцы запіхалі жыдоў у цесныя вагоны, дапіхалі дубінкамі. У той валтузні адзін з вазакоў з Кашалёў таксама трапіў у вагон. Стаіць фурманка без гаспадара. Людзі кажуць немцам, што вазак у вагоне; то ледзь яго адтуль выцягнулі.

### Пры немцах

О-гоо, пры немцах! Немец толькі зірне, то той уцякае.

Тры дні ў тыдзень хадзіў на шарварак, камяні падкідаць. Рабілі дарогу з Орлі ў бок Бельска. Стары жыдоўскі могільнік, кіркут. Ці на кіркуце былі высокія мураваныя намагільнікі? Не было, былі толькі каменныя мацэвы. Побач клуні Шайкоўскага расла вярба. А дзе сёння клуня Багацэвіча, там не было кіркута, быў там участак поля бацюшкі, каля пятнаццаці сотых гектара. Старыя могілкі разбіралі людзі з коньмі.

Калі вывезлі мацэвы, немец засеяў жыта, было ладнае і немец сабраў. Людзі сярпамі жалі. Помню, што збожжа вазілі вялікім самаходам Raufoss, штодзень адзін курс рабіў. Вазілі на склад каля Фурсы. Дзеці хацелі крадком пад'ехаць самаходам і Сярожа — брат маёй брацііхі — зачапіўся вопраткай і не мог вызваліцца і так загінуў на месцы.

Збожжа малацілі машынай, стаяла ў кафлярні. Недалёка кафлярні немец пасеяў гуму, каўчук, але гэта не ўдалося.

У Кашалях Аркадзь Каляда закалоў вепрука; пра гэта данёс немцам солтыс. На жандармерыі далі лупцоўку, але солтысу — за данос. Былі ў іх важнейшыя справы і не любілі стукачоў.

Некаторыя гаварылі, што немец быў кепскі. Неабавязкова. Хадзілі правяраць засекі ў людзей. Прыйшлі да майго бацькі, а ў яго сям'я вялікая. Немец заглянуў у засек і сказаў, што замала і загадаў узяць яшчэ ад дзедка, бо той меў замнога. Запасы найперш правяраў паліцыянт Мазанэк, вельмі тоўсты мужчына, а пазней хадзілі і правяралі нямецкі аграном і камісар Паўль Сандэцкі.

### Пасля вайны

У лістападзе 1952 года вярнуўся я з войска, а пасля Руздва ажаніўся з Анастасіяй. У 1956 годзе пасадзілі мяне на адзін месяц у турму ў Беластоку на Палуднёвай шасе, за тое што рабіў валёнкі. Зрабіў бадай дзве пары для старэйшых людзей. Міліцыянтам у Орлі быў Ранеўскі, пакаралі штрафам у сто злотаў і пасадзілі. Рабіў, бо не было ў чым хадзіць. Валёнкі былі першым абуткам. Пасля ў продажы паявіліся фільцавыя боты.

Працаваў каля сямі сезонаў у цагельні Антанова, якая падлягала пад кафлярню, а пасля васемнаццаць гадоў працаваў у бетанярні, пасля яшчэ ў меліярацыі. Некалькі гадоў быў царкоўным сторажам на паўстаўкі, быў таксама царкоўным званаром у 1989-2015 гадах.

Запісаў **Міхал МІНЦЭВІЧ**



## МАРОЗ І МАРЖЫ

На Падляшшы цалкам панавала суровая зіма. Лясы, горы і даліны прыкрыла белая пярына снегу а на дрэвах серабрыўся іней. Падляшша выглядала як у зачараванай казцы Каралевы Зімы. Вакол гарадоцкага лесу традыцыйна разыходзіўся інтэнсіўны пах самагонкі і раздаваўся оперны барытон Коліка:

*Ой, мороз-мороз, не морозь меня,*
*Не морозь меня, моего коня...*

— Эх, добрая самагоначка! — паціраў рукі ад радасці Толік.

У самым сэрцы гарадоцкага лесу стаяла старая зямлянка, а ў ёй абсталяванне для вырабу белага золата Падляшша. Тут з зямлянкі і дзень, і ноч, увесь час на ўвесь лес развейваўся дым і гараў агонь, які падаграваў вялізны кацёл. Гэта не быў кацёл, але парнік для варэння бульбы свінням, які Толік і Колік перамайстравалі на машынку для прадукцыі таго, чым найбольш славіцца Падляшша. Колік надалей спяваў песню „Ой, мароз-мароз". Неўзабаве пад зямлянку пад'ехала некалькі аўтамашын. З іх хутка выскачылі голыя людзі, можна сказаць амаль голыя, таму што мелі на сабе плаўкі, рукавіцы, шапкі і боты. Аднак ніхто з тых амаль трыццаці чалавек не меў на сабе ні нагавіц, ні куртак, а нават світараў ці сарочак.

— Эй, абадранцы, скуль вы прыехалі?

— З Беластока, толькі не абадранцы!

— Мо нехта іх абакраў... — задумаўся Колік, які спыніў сваю песню.

Адзін з голых падбег і задыханым голасам запытаў:

— Людзі добрыя, а дзе тут самагонку можна купіць?

— А вам што, лета? Мароз на двары, а вам не сорамна голымі бегаць па лесе?! Звярыну толькі напужалі...

— Мы падляшскія маржы, прыехалі, каб у вас пагрэцца. Можаце нам прадаць самагонку? — паціраў рукі самы бадзёры.

— Якія маржы?!

— Мы гартуемся на марозе, разумееце, для здароўя... Едзем на Семяноўку накупацца.

— Вы ачмурэлі? На двары зіма, а вам купацца захацелася?

— Як так купаемся, дык увесь год не хварэем...

— Мы таксама з Толікам не хварэем, — перарваў размову Колік. — Сто грам на левую, сто на правую нагу і не хварэем усю зіму!

— Мы ж па тое да вас прыехалі...

— Колькі літраў? Стандарт ці спецыяльны заказ?

— Нас трыццаць дык трыццаць літраў хопіць. Стандарт...

— А што ж трыццаць літраў для такога народу. Прадам вам пяцьдзясят.

— Не, трыццаць хопіць

— Ну добра. Эх, слабыя ў вас галовы, аматары, — уздыхнуў Толік. — На фактуру, ці хопіць чэк?

— Чэк хопіць.

— Ну добра, 20 злотых за літр, разы трыццаць... — стаў лічыць на касавым апараце Колік. — 600 злотых

— Пачакайце, — тут морж выцягнуў з плавак 600 злотых.

Колік вынес пяць шасцілітровых каністраў. Маржы схапілі іх і пацягнулі ў аўтамашыны. Машыны з піскам колаў спешна ад'ехалі.

— Дзівакі нейкія, не лепш папарыцца ў лазні, чымсьці мерзнуць голым на марозе, — здзівіўся Колік

— І слабыя галовы ў іх. Што ж трыццаць літраў на трыццаць чалавек, — уздыхнуў Толік.

А над лесам надалей узносіўся густы дым і салодкі пах самагонкі. У парніку булькатала вараная самагонка, а Толік і Колік ізноў чакалі новых кліентаў гэтага магічнага напітку, лякарства на ўсе хваробы, бальзаму для горла і душы. А да самагоначкі добра было б з'есці белае сала і закусіць квашаным агурочкам з бочкі. Але што зробіш! На Падляшшы ад некалькіх гадоў нельга гадаваць свіней...

## ГАРАДСКІЯ

Захацелася Толіку і Коліку гарадскога жыцця. Затужылі па натоўпах людзей, па шумлівых гарадскіх вуліцах поўных аўтамабіляў. Рашылі пакінуць свой пусты гарадоцкі лес, а сваю фабрычку самагонкі перавесці ў Беласток. Усталяваліся ў раёне Дзесянціны на вуліцы Халеры, 56/49, у трохпакаёвай кватэры. З вёскі прывезлі двое свіней, якіх размясцілі на балконе. Курэй памесцілі на кухні, а карова пасвілася каля блёка. Калі прыйшла зіма, карове купілі аграмадны ложак і размясцілі яе ў салоне. Сена, збожжа і сечку трымалі ў спальні, а бульбу ў падвале, дзе ўсталявалі парнік, які адначасова варыў бульбу і самагонку. Гарадскія людзі спачатку з зацікаўленасцю глядзелі на сваіх новых суседаў, а пасля амаль штодзень стала прыязджаць да іх паліцыя:

— Грамадзянін Анатоль Ціванюк? — прывітаў у дзвярах паліцыянт.

— Так, а што?

— Тут да нас дайшлі скаргі ад вашых суседзяў, што на балконе свіней гадуеце.

— Ну і што тут дзіўнага? Вольнаму воля!

— Дайшла скарга, што з вашай кватэры смярдзіць свіным гноем.

— Ну што вы, усе мае свінні я купаю тры разы ўдзень.

— Дайшло да нас, што карова ў салоне разам з вамі ў ложку спіць.

— Ну і спіць. Я карове купляю памперсы, якія мяняю пяць разоў удзень. У нас усё гігіенічна...

— ... Ну і курэй завялі...

— Куры гэта найменшая праблема, мала сраюць і залатыя яйкі нясуць.

— Залатыя ды яшчэ здзяйсняюць тры жаданні...

— Не веру, пакажыце — пацікавіўся паліцыянт.

Толік пайшоў на кухню і адтуль прынёс кошык залатых яек, якія разгаварыліся:

— Каму жаданне?

— Каму жаданне?

— Каму жаданне?

Тут прамовіў Колік:

— Спакой! Гэта не канцэрт пажаданняў на Радыё Рацыя. Зрабіце так, каб да нас перастала прыязджаць паліцыя і гарадская страж. А другое жаданне, каб гарадскія людзі ў нас сталі за вялікія грошы купляць нашу самагонку, свойскае малако, мяса, сыр і хлеб. І зрабіце так, каб мы з Толікам пабудавалі вясковы раён у Беластоку.

Яйка ў кошыку ўскрыкнулі хорам:

— Хай так будзе! Хай так будзе! Хай так будзе!

І з гэтай пары Колік і Толік сталі настолькі багатымі, што за свае грошы разбурылі ўсе блёкі ў Беластоку, а на іх месца паставілі драўляныя хаты гонтай крытыя, хлявы і стадолы. Беласточцкія паркі памянялі на лугі і палі. Вакол ракі Белай пасвіліся коні, каровы і авечкі. У самай рацэ завялі рыб і ракаў. У Беластоку людзі забылі размаўляць па-польску. Усе размаўлялі на ўсіх дыялектах Падляшша.

— Гэта я разумею гарадское жыццё, — з уцехай сказаў Толік

— Разжыліся мы, брат, дык з горада зрабілі вёску, — усміхнуўся Колік.

— Усё вярнулася на сваё месца.

І так Беласток стаў адной вялікай вёскай. З гандлёвых галерэй Толік і Колік парабілі рынкі, на якіх іх працаўнікі прадавалі свіней, коней, кароў і бычкоў. На сельскагаспадарчай біржы па вуліцы Андэрса прадавалі садавіну і гародніну. У беласточцкай оперы ладзілі музыкі, на якіх ігралі народныя фольк-капэлы з усяго Падляшша. Беласток наведвалі турысты з усяго свету і дзіваваліся, што ёсць яшчэ на свеце такое месца, дзе можна купіць здаровую яду без кансервантаў, выпіць сапраўдную самагонку ды паслухаць падляшскую фолькмузыку. Да таго ў Беластоку ўжо не было прэзідэнта, толькі солтыс, хаця Беласток налічваў ужо тры мільёны жыхароў і быў найбольшым горадам у Польшчы. У Беласток перасяляліся за працай людзі з усёй Еўропы, а перш за ўсё эмігранты, якія дваццаць гадоў таму выехалі з Падляшша. Менавіта яны вярталіся ў роднае старонне. Беласток расцвітаў гоманам маладых падляшукоў, беларусаў, украінцаў і русінаў. А старыя беластачане цешыліся, што іх Беласток усё разрастаецца і разрастаецца на новыя хаты, панадворкі, хлявы і стадолы. Усе перасялі з аўтамашын на фурманкі, запрэжаныя ў коней. У Беластоку было таксама крыху і палякаў але яны ў натоўпе сядзелі ціха як мыш пад мятлою.

## ВЯСКОВЫЯ СЭЛЕБРЫЦІ

Толіка і Коліка запрасілі ў варшаўскае тэлебачанне для ўдзелу ў ток-шоў. Сяргей Галівудскі будзе іх прэзентаваць.

— Урэшце нас дацанілі! — пацёр рукамі Колік

— Як мы там пакажамся, што скажам? — хваляваўся Колік

— Не бойся, найважнейшае быць сабою.

І так нашы нястомныя самагоншчыкі з гарадоцкага лесу апранулі новыя фуфайкі, ватныя нагавіцы, бліскучыя чорныя лямцавыя боты, а таксама скураныя вушанкі. На вочы надзелі чорныя акуляры. Даведаліся, што будуць у святле юпітараў. І падаліся на фурманцы з канём у сталіцу. Па дарозе ў Варшаву міналі вёскі каля Ломжы, Замбрава і дзіваваліся.

— Глядзі які вялікі калгас, — са здзіўленнем казаў Колік на вёску каля Замбрава.

— Гэта не калгас, але ферма, — папраўляў сябра Толік.

Ехалі ў Варшаву амаль тры тыдні. Пры вуліцы Вараніча звязалі каня, пад мызу ўчапілі мяшок з аўсом, а ззаду разаслалі салому.

— Ну і мы ў сталіцы. — Толік захапляўся вялізнымі хмарачосамі.

Ля ўвахода ў будынак тэлебачання зачапіў іх ахоўнік, але калі Толік з Колікам паказалі свае „VIP-білеты" і беспраблемна з'явіліся ў студыі „Сяргей Галівудскі шоў".

— Прывітайма нашых гасцей з Падляшша, — ускрыкнуў вядучы, а натоўп публікі грымнуў бурнымі воплескамі. — Іх самагонку п' е ўся Польшча, ад гор да мора, ад захаду да ўсходу, усе едуць да іх... Што там Польшча, увесь свет. Раскажыце, адкуль вы прыехалі?

— Мы прыехалі з Гарадка... — горда сказаў Толік

Тут раздаліся бурныя апладысменты ў студыі.

— Як пачалася ў вас прыгода з самагонкай?

— Што ж магу сказаць, гэтае хобі ў нас генетычнае — гнаў бацька, гнаў дзед, прадзед, прапрадзед, усе гналі... — шчыра прызнаўся Колік, а на яго чорных акулярах зіхацела святло юпітараў.

— Скажыце рэцэпт на самую смачную самагонку?

— 1410.

— Гэта год бітвы пад Грунвальдам... — здзівіўся вядучы.

— Не, кілаграм цукру, чатыры літры вады і дзесяць грамаў дражджэй.

— Э-гэ, спрытна вы прыдумалі ў гэтым вашым гарадоцкім лесе. А з чаго можна гнаць самагонку?

— Апошнім часам мы гналі самагонку з цукеркаў. А можна практычна з усяго. Сусед гнаў самагонку нават з малака.

— Гэта ж кумыс атрымаецца, татарская самагонка... — перарваў вядучы.

— Не, гэта наша падляшская самагонка, — упіраўся Колік.

Публіка шалела ў студыі, аж Толік зняў вушанку, бо атмасфера стала гарачай.

Вядучы абкідваў іх хітрым зрокам і лавіў іх за слова.

— А ці вы пілі купную гарэлку?

— Ну што ты, дурня робіш?! — узбурыўся Колік. — На Падляшшы ніхто гарэлкі не купляе. Ад купчай на другі дзень мазгаўня баліць. Гэты нумар на Падляшшы не пяройдзе.

— Я п'ю віскі, — сказаў вядучы Галівудскі.

— Віскі англічане на здохлых мышах гоняць.

— Бу-у-у, — зароў натоўп. — Толік і Колік — нашы героі! — скандаваў натоўп. — Толік і Колік нашы героі!

— А я люблю каньяк, — надалей Толіку і Коліку іграў на нервах Сяргей Галівудскі.

— Віскі і каньяк п'е толькі дурак, — крычаў натоўп. — Самагонка мае сваё, па ёй цвіце жыццё.

Толік шапнуў Коліку:

— Уцякаймa стуль! Тут столькі народу, што не напоім яго адной бочкай самагонкі!

І так нашы героі ўцяклі як найхутчэй да фурманкі. А потым каня сцебанулі батам і, гайда на Падляшша, у гарадоцкі лес. На Падляшшы людзі доўга расказвалі, што бачылі Толіка і Коліка ў варшаўскім тэлебачанні. Сталі яны слаўныя на ўсё Падляшша і неўзабаве сталі раздаваць аўтографы, хаця абодва закончылі чатыры класы царскай школы і прыгожа пісаць не ўмелі.

## САМАГОН-БЭНД

Толік і Колік рашылі стварыць гурт падляшскай песні і танца і назваць яго „Самагон-Бэнд". Захацелася ім спяваць, іграць ды развесяляць нашу падляшскую публіку. Толік іграў на гармоніку, а Колік рэзаў на гітары.

Спявалі нашы народныя песні на фэсце каля Семяноўскага возера. Іх талент заўважыў менеджар Славік Гарбанюк з Беластока. Абяцаў ім запісаць альбом у студыі.

— Слаўнымі будзеце на ўвесь свет. Вашы песні будуць гучаць на радыё і ў тэлебачанні.

Толік і Колік адзелі новыя фуфайкі і ватнякі, бліскучыя лямцавыя боты і скураныя вушанкі, узялі з сабой гармонік і гітару і паехалі ў Беласток скарыць увесь свет. Для двух самагоншчыкаў праезд поездам з Гарадка ў Беласток быў тым жа самым, што і наведанне Нью-Йорка. Перад візітам у студыі кожны з іх пацягнуў глыток самагонкі і з'явіліся новыя перспектывы на музычную кар'еру.

— Трэба перш за ўсё спяваць песні з хамскім тэкстам і бадзёрымі мелодыямі, — заўважыў Толік.

— Трэба спяваць тое, што хоча народ, — падкрэсліў Колік

— Музыка мусіць выплываць з глыбіні сэрца, — сказаў Толік

— Хай натхненнем будзе нам самагонка, — ускрыкнуў Колік

Мужыкі селі ў аўтобус гарадскога транспарту нумар 21 і прыехалі ім на вуліцу Салдатаў Праклятых, 65. Там знаходзілася студыя „Карнішон Рэкордс". Прывітаў іх Славік Гарбанюк:

— Ну і нашы зоркі прыехалі!

— Сёння мы дамо табе чаду!

І прыступілі да справы. Размясціліся ў студыі сярод мікрафонаў. На вушы надзелі навушнікі і пачалося! Толік рэзануў польку на гармоніку, а Колік стаў вымятаць на гітары. Абодва заспявалі:

— Раз сказала баба дзеду:
Я ў Амерыку паеду.
От, дурная ты, п***а,
Там не ходзяць паязда!

Калі ігралі і спявалі, Гарбанюк запісваў іх за шыбінай студыі. Цешыўся, што ў гэтых двух сялянах адкрыў вялікі талент. Ведаў, што альбом з іх песнямі купіць усё Падляшша. Што там Падляшша — увесь свет пазнаёміцца з песнямі самагоншчыкаў! О, альбом назаве „Песні падляшскіх самагоншчыкаў". А мужыкі далей спявалі:

— За самагонкі сто грам,
Увесь свет аддам,
Самагонка добрая на смутак і жаль,
З ёю найлепшы баль!

І так Толік і Колік запісалі свой першы ў жыцці альбом. З'ездзілі ўвесь свет, але ізноў вярнуліся ў гарадоцкі лес таму, што ўсюды добра, але ў роднай хаце найлепш.

Юрка БУЙНЮК

1 ☞ працяг

Рада горада 7 лютага на нечарговым пасяджэнні прыняла запрапанаваную бургамістрам пастанову ў справе IV Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў. Аднак перад галасаваннем радныя ад клуба ПіС зачыталі сваю заяву, у якой крытычна ацанілі скліканне нечарговай сесіі, патрабавалі арганізаваць бургамістрам гарадское святкаванне ў гонар выклятых жаўнераў і выйшлі з сесіі. У прынятай пастанове радныя аддалі пашану ахвярам атрада Рамуальда Райса «Бурага» і запрацівіліся ўслаўленню яго як героя падчас гайнаўскіх маршаў. Звярнуліся таксама да міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Іаахіма Брудзінскага з прапановай забараніць маніфестацыі, якія пагражаюць добрым суадносінам грамадзян розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак не даў згоды арганізаваць IV Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў, як зрабіў гэта два гады таму. Бургамістр, між іншым, заявіў, што не згаджаецца на марш, паколькі Пракуратура ў Беластоку вядзе расследаванне ў справе падазрэння ў прапагандаванні падчас мінулагодняга маршу недазволеных у Польшчы сімвалаў і заклікання да нянавісці на нацыянальнай і рэлігійнай глебе. Удзельнікі папярэдніх маршаў услаўлялі Рамуальда Райса «Бурага», адказнага за пацыфікацыю вёсак на Гайнаўшчыне і Бельшчыне і смерць мірных жыхароў, у тым ліку жанчын і дзяцей, што выклікае супраціў у вялікай часткі грамадства Гайнаўкі, дзе жывуць нашчадкі ахвяр атрада «Бурага». Арганізатары маршу рашэнне бургамістра Гайнаўкі абскардзілі і ў выніку Акруговы і Апеляцыйны суды ў Беластоку адхілілі забарону бургамістра. У абгрунтаванні суды, між іншым, удакладнілі, што права на арганізацыю дэманстрацый і публічнага выяўлення сваіх меркаванняў можна абмяжоўваць толькі ў выключных абставінах. На плакатах-запрашэннях на IV Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў паявіўся здымак Рамуальда Райса «Бурага», які ўслаўляўся ўдзельнікамі папярэдніх маршаў як герой, што было названа, між іншым, правакацыяй.



Фота racyja.com

IV Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў, які ладзіўся па фармальнай ініцыятыве Барбары Паляшук, адбыўся 23 лютага згодна з планам. Выйшаў з-пад касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Гайнаўцы, прайшоў вуліцамі 3-га Мая, Сцяпана Баторыя, айца Антонія Дзевятоўскага, каля Свята-Троіцкага сабора і завяршыўся побач Гайнаўскага дома культуры і сабора перад суботняй усяночнай багаслужбай. На чале маршу ішлі асобы, якія неслі транспаранты з лозунгам Нацыянальнай Гайнаўкі і з надпісам «Cześć i chwała bohaterom», дзе побач Данута Седзікуўны «Інкі» і іншых выклятых жаўнераў, была выява Рамуальда Райса. Удзельнікі маршу неслі бел-чырвоныя сцягі, сцягі ONR і голасна выкрыквалі лозунгі «To my, to my, Polacy», «Bóg, honor i ojczyzna», «Precz z komuną», «Wielka Polska chrześcijańska», а пазней таксама «Bury, Bury — nasz bohater» і іншыя. Рэканструкцыйная група ішла ў канцы маршу, які ахоўваўся вялікай колькасцю паліцыянтаў. Гайнаўяне ў розным узросце і прадстаўнікі СМІ ішлі збоку маршу, па тратуарах, а паміж імі і ўдзельнікамі маршу ішлі паліцыянты. Каля скрыжавання архіепіскапа Мірана, яшчэ на вуліцы Сцяпана Баторыя, сабраліся дзясяткі пратэстуючых супраць маршу членаў руху «Грамадзяне РП», якія трымалі ў руках белыя ружы і транспарант з лозунгам «Bury nie jest bohaterem». Напісалі на дарозе «79 ofiar» і пасля раскінулі на гэтым надпісе ружы. Зрабілі яны спробу затармазіць марш і большасць з іх села ўпоперак вуліцы на асфальтавым палатне. Паліцыянты сталі зносіць пратэстуючых набок. Такім спосабам зрабілі вольнай палову дарогі і адзін тратуар, якімі прайшоў марш. Перад Гайнаўскім домам культуры марш быў распушчаны, а яго ўдзельнікі перайшлі ў Гайнаўскі дом культуры, дзе ў канцэртнай зале адбылася сустрэча з гісторыкам Лешкам Жаброўскім.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## http://samaemae.by

Калі лічыць бясспрэчнай ісціну, што бізнес вельмі адчувальны на ўсялякія настроі ў грамадстве, то можна расцэньваць як добры знак таго, што ў Беларусі шмат якія фірмы пачалі з большай павагай ставіцца да беларускай мовы. Бо гэта значыць, што і ў беларускім грамадстве з'явіўся нейкі большы запыт на беларускую мову. Калі сапраўды гэта так, то з'яўленне сайтаў разнастайных фірм, дзе прысутнічае беларускамоўная версія, ужо не ўспрымаецца як звычайнае жаданне нейкага прадпрымальніка прыцягнуць да сябе ўвагу, бо гэта можна лічыць праявай імкнення спадабацца беларускамоўнаму пакупніку ці пакупніку, які адчувае нейкі сантымент да беларушчыны.

Адным з такіх сайтаў, на якім не так даўно ўзнікла беларускамоўная версія, з'яўляецца віртуальнае прадстаўніцтва фірмы „Самае маё", якая шые і прадае розныя, як яна вызначае, „прыгожыя ды зручныя рэчы, што дапамагаюць арганізаваць і падтрымліваць парадак". Каб даведацца, што дапамагае парадку, варта зазірнуць на сайт кампаніі, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://samaemae.by**.

„Мы прыдумляем і шыем прыгожыя функцыянальныя рэчы, пры дапамозе якіх арганізацыя прастory і падтрымка парадку дома, у дарозе ці на прыродзе робіцца працэдурай лёгкай і прыемнай. Канкурэнтная перавага вырабаў маркі «Самае сваё» — рашэнне канкрэтнай задачы + серыя невялікіх інавацый у кожным прадукце: прадуманая выкрайка і хітрая тэхналогія зборкі ці крыху больш зручная ручка і новая ўзмоцненая нітка. Праз увагу да такіх дробязяў мы фарміруем якасць і паказваем сваё стаўленне да пакупнікоў", — адзначаецца ў самапрэзентацыі маркі ў рубрыцы „Самае маё", выйсце на якую, як і на ўсе іншыя, знаходзіцца ўверсе цэлага выяўлення.

Уладальнікі фірмы сцвярджаюць, што яны не вырабляюць гамакаў, торбаў ці чахлоў, а распрацоўваюць вырабы-інтэрфэйсы, якія вырашаюць хай і невялікія, але вельмі важныя для кожнага чалавека праблемы.

Каб пазнаёміцца з тым, што ж прапануе пакупнікам „Самае маё", варта зазірнуць на старонку „Каталог", якая ідзе першай у пераліку ўсіх выйсцяў на рубрыкі. Там мы ўбачым разнастайныя гамакі, мяккія пеналы, міскі з тканіны, гаманцы, торбачкі. Таксама маецца прапанова па нанясенні на прадукцыю любога лагатыпа, які замовіць кліент.

Да гонару фірмы варта адзначыць, што яна адчувае нейкую сацыяльную адказнасць, і таму прымае ўдзел у праектах, якія накіраваны на дапамогу хворым ці жывёлам. Так, на старонцы КСА (абрэвіятура, якая чамусьці не расшыфроўваецца) распавядаецца, што „Самае маё" падтрымлівае праект cardio.today, дзе апроч рэгулярных публікацый аўтарскіх матэрыялаў выпускаюцца брашуры серыі «Бібліятэка сардэчніка» і — пры падтрымцы Міністэрства аховы здароўя — працуе кардыя-патруль «Здароўе ў кубе». Таксама фірма дапамагае сабакам-інвалідам. Напрыклад, там распрацавалі адмысловыя падцяжкі-хадункі, у якіх сабака з праблемамі хрыбетніцы зможа перасоўвацца.

Паколькі „Самае маё" прадстаўляе пакупніку ўласна зробленыя рэчы, то, зразумела, шукае тых, хто ў першую чаргу можа нешта пашыць. Пра вакансіі ходзіць у аднайменнай падрубрыцы. Праўда, уладальнікі фірмы, якія шукаюць швачак, крыху аканфузіліся, бо пераклалі з рускай мовы „швейные бригады" як „шавецкія брыгады". Магчыма, калі ім нехта падкажа, яны выправяць дадзеную памылку.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з календара

### 140 гадоў з дня нараджэння

# Гасана Канапацкага

Дзеяч беларускага вайсковага і нацыянальнага руху Гасан Канапацкі нарадзіўся 25 лютага 1879 г. у Мінску. Паходзіў са шляхецкага роду татарскага паходжання. Сын калежскага асэсара Амурата Канапацкага.

Гасан Канапацкі атрымаў адукацыю ў Полацкім кадэцкім корпусе. Пасля скончыў Пецярбургскую артылерыйскую школу імя князя Канстанціна (1897). Быў старэйшым афіцэрам у Рускай імператарскай арміі ў Забайкальскай акрузе. Канапацкаму давялося ўдзельнічаць у расійска-японскай вайне 1904-1905 гг., пасля ў Першай сусветнай вайне. Быў узнагароджаны царскімі ордэнамі. У 1909 г. яму прысвоілі званне капітана і накіравалі ў Благавешчанск, дзе ён камандаваў спачатку адной з батарэй Брыгады палявой артылерыі, а пазней і ўсім гэтым злучэннем. У 1910 г. ажаніўся з 22-гадовай Аленай Ільяшэвіч. Пазней была служба ў Хабараўску і Калузе. У 1913 г. нарадзілася дачка Тамара.

У 1917 г. у рангу палкоўніка камандаваў 69-й артылерыйскай брыгадай Заходняга фронту. У час вайны быў атручаны газамі, лекаваўся і служыў у Мінску ў эвакуацыйным пункце (травень-кастрычнік 1917 года). 10 траўня 1918 г. па расфармаванні 69-й артылерыйскай брыгады здаў грошы і дакументы Маскоўскаму абласному камісару вайсковых спраў і вярнуўся ў Мінск.

22 кастрычніка 1919 г. увайшоў у склад Беларускай вайсковай камісіі, прызначаны гетманам Беларускіх вайсковых аддзелаў. У лістападзе 1920 г. аддзелы пад камандаваннем Канапацкага былі на польска-бальшавіцкім фронце, а ў снежні ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях пад Слуцкам.

У 1920 г. Канапацкі пераехаў у Вільню. Браў актыўны ўдзел у беларускім руху: быў намеснікам старшыні Рады старэйшых Беларускага музычна-драматычнага гуртка і сакратаром Беларускага грамадзянскага сабрання (БГС). Пасля расколу ў БГС 21 верасня 1924 г. быў намеснікам старшыні ва ўтворанай Часовай беларускай радзе (да красавіка 1925 г.), якая супрацавала з польскімі ўладамі, супрацьстаяла Беларускаму пасольскаму клубу. У гэты час пазнаёміўся і зблізіўся з такімі асобамі як Францішак Аляхновіч, Арсень Паўлюкевіч, Макар Краўцоў (Касцевіч), быў сябрам таварыства „Беларуская хатка" ў Вільні.

На з'ездзе Заходняй Беларусі 26-28 чэрвеня 1926 г., які склікала Часовая беларуская рада, удзельнічаў як прадстаўнік таварыства „Прасьвета". З 21 лістапада 1927 г. па 2 красавіка 1928 г. — кіраўнік рэдакцыі часопіса „Беларускі радны". З 1937 г. працаваў у бухгалтэрыі Земскага банка. У 1941-1943 гг. быў старшынёй бацькоўскага камітэта Беларускай гімназіі ў Вільні, пісаў фельетоны ў „Беларускі голас".

У другой палове 1944 г. у Вільні Гасан Канапацкі быў арыштаваны НКВД і дастаўлены ў турму ў Мінск. Там ён правёў амаль год. У той жа час за дапамогу жаўнерам Арміі Краёвай была арыштаваная і яго старэйшая дачка Тамара. Аднак урэшце іх адпусцілі ў 1946 г. У чэрвені 1946 г. разам з сям'ёй Канапацкі выехаў у Польшчу ў горад Быдгашч. У яго было двое дзяцей — дачка Тамара і сын Мацей. Будучы моцна хворым пасля зняволення ў савецкай турме палкоўнік Гасан Канапацкі памёр 11 траўня 1953 г. Пахаваны на камунальных могілках у Быдгашчы па вуліцы Кцыньскай.

У 2011 годзе ў Быдгашчы была ўстаноўлена мемарыяльная шыльда ў памяць беларускага дзеяча татарскага паходжання, які прысвяціў сваю грамадска-палітычную дзейнасць на карысць вольнай Беларусі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Вечарына памяці Юркі Туронка

18 лютага ў Варшаўскім універсітэце адбылася вечарына памяці Юркі Туронка, які памёр 2 студзеня г.г. Ладзілі яе Беларуская нацыянальная памяць і Кафедра інтэркультурных студыяў Сярэдне-Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта. Сустрэчу вёў праф. Вячаслаў Швед. Вечарына пачалася з ушанавання памяці Юркі Туронка хвілінай маўчання. Затым Аляксей Дзікавіцкі — радны БНР і наместнік дырэктара тэлебачання Белсат уручыў на рукі Зінаіды Туронак медаль з нагоды 100-годдзя БНР, якім Рада БНР уганаравала памерлага за яго прыжыццёвую дзейнасць на карысць Беларусі і беларускасці. Зінаіда Туронак у слове падзякі сказала, што яе муж усё жыццё прысвяціў Беларусі і таксама стварыў беларускі дом і беларускую сям'ю. Паказаны былі таксама фрагменты з рабочых здымкаў над фільмам пра Другую сусветную вайну для тэлеканала Белсат, у якіх выказваўся Юры Туронак. Гісторыка ўспаміналі Лена Глагоўская, Анатоль Міхнавец, Лёнік Тарасэвіч. Праф. Юры Грыбоўскі прэзентаваў 4 нумар навуковага штогодніка «Przegląd Środkowo-Wschodni», ахвяраванага да 90-х угодкаў Юркі Туронка. На вечарыне прысутнічалі таксама дочкі памерлага: Ганна і Наталля, супрацоўнікі Кафедры інтэркультурных студыяў ды варшаўскія беларускія сябры Юркі Туронка.

Думаю, што варта да гадавіны смерці гісторыка падрыхтаваць памятную кнігу, а магчыма таксама сарганізаваць канферэнцыю яму прысвечаную. Шмат хто з нас шмат чым абавязаны перад с.п. Юрым Туронкам.

Лена ГЛАГОЎСКАЯ

*Віктар Швед*

### *Надзеі*

*Васямнаццаты –*
*І сорак шосты.*
*А гэта будзеш Ты –*
*Зусім не простае.*

*Надта складанае*
*У гадоў ліку,*
*Бо тут, Каханая,*
*Твая Вялікасць!*

*18 лютага 2019 года.*

## Ікона — мая ціхая малітва

**Міхал Пякарскі**, ураджэнец Старога Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ўжо шаснаццаць гадоў піша іконы. Піша на дошцы ды згодна з іканаграфічным канонам. Ён закончыў школу іканапісу ў Бельску-Падляшскім як стыпендыят маршалка Падляшскага ваяводства.

Зараз спадар Міхал жыве ў бацькоўскай віле, у якой мае свае выдзеленыя два ясныя ды прасторныя пакойчыкі з вялікімі вокнамі і ў іх працуе. Піша іконы з выявай Ісуса Хрыста, Багародзіцы, святых і ангелаў. Са святых часта піша выяву архістраціга Міхаіла. Ікона — гэта маё моцнае захапленне, — кажа Міхал Пякарскі і дадае — мая ціхая малітва.

Ён на грамадскіх пачатках вёў майстар-класы для ахвотных па запрашэнні ў Беластоку, Белавежы, Гарбарах каля Бандароў, Міхалове і ў Новай Волі. Выстаўкі яго ікон ладзілі, між іншым, Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, галерэя ў Казімежу над Віслай і галерэя імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Закон і рэчаіснасць

З 1 ліпеня 2018 года абавязвае закон аб асаблівых развязках падтрымкі для асоб са значнай ступенню абмежавання. Гэта абазначае, што такія асобы карыстаюцца асаблівымі прывілеямі такімі як ліквідаванне тэрміну карыстання з медычных вырабаў; пазачарговым карыстаннем з медычнай апекі, таксама забеспячэнне пазачарговай закупкі лякарства ў аптэках; доступ да спецыялістаў; пагашэнне лімітаў фінансавання спецыялістычнай медычнай апекі ў сферы рэабілітацыі.

Закон законам, а рэчаіснасць карыстаецца сваімі правіламі. Прыкладаў хоць адбаўляй. Першы з боку: 15 лютага я патэлефанаваў у рэгістрацыю і папрасіў падняць картатэку да кардыёлага. Прытым адзначыў, што паводле закону ад 1 ліпеня аб асаблівых развязках падтрымкі для асоб са значнай ступенню абмежавання прапіска належыцца па-за чаргой. «А вы хто, ваенны інвалід ці вязень канцлагераў?» — папытала панечка з адміністрацыі.

«Я — 79-гадовы пенсіянер з абмежаваннямі значнай ступені. Карыстаюся дакументам» — прыбавіў. «Дык патэлефануйце ў прыёмную і папытайце кардыёлага, ці вас прыме». Так і зрабіў я. Доктар, выслухаўшы, ветліва пагадзіўся прыняць мяне праз тыдзень у 13-14 гадзін. Затым перадаў я інфармацыю ў адміністрацыю. Прапісалі без праблемы. На маю думку, гэта лішняя валакіта ды брак належнай інфармацыі аб дзейсных законах у медычных установах.

Падобная праблема тычыцца і аптэк. Калісьці былі завешаны абвесткі, хто карыстаецца прывілеяй афармлення спраў па-за чаргой. У сучаснай дэмакратыі цывілізацыйны прагрэс адмяніў добрую звычку. Мне здаецца, што законы ўстанаўліваюцца дзеля таго, каб іх выконваць, а не для моды. Але гэта ўжо не пад развагу клієнтам, а кампетэнтным медычным установам.

(УС)

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** выдатны лётчык, майстар паветранага бою = 5 _ 6 _;
**2.** сказ Карана ў... маятніку = 11 _ 1 _ 10 _;
**3.** урачысты верш у... водары = 13 _ 19 _ 20 _;
**4.** безвыходнае становішча = 7 _ 8 _ 4 _ 3 _ 2 _;
**5.** спартсмен на каньках з клюшкай = 9 _ 18 _ 12 _ 14 _ 15 _ 16 _ 17 _.

(ш)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 5 нумара**

Булава, вецер, Лодзь, пазыка, Ур, чысціня.

Рашэнне: **Не вучы рыбу плаваць а злодзея красці**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал

## 03.03 — 09.03

**(22.03. — 20.04.)** Калі іншыя пападаюць, ты дойдзеш да мэты. Толькі не спяшайся занадта, каб не згубіць кахання. 3.03. бяры справы ў свае рукі. 3-5.03. будзеш засыпаны не сваёй работай. Старт у новы месяц можа быць вельмі цяжкім. 7.03. глянеш на ўсё свяжэйшым вокам — рашэнне меў як рукой падаць! Дзве дэкады будзеш слабейшы, не натужвайся.

**(21.04. — 21.05.)** Пазбудзешся таго, што табе вельмі мяшае і распусціш крылы. Здзейсніш свае мары. Адкрыешся на новае. Любоўнае жыццё можа ў сакавіку стаць на галаве. З 7.03. зоркі спрыяюць рамантычным сустрэчам. Будзеш поўны энергіі і ахвоты да саперніцтва, возьмеш голас на сходах, пакажаш свае задумы; не бойся крытыкі, папраў іх, прадставіш у апошнія дні месяца. Не афармляй важных спраў (ад 5.03 аж да 27.03).

**(22.05. — 22.06.)** 5-7.03. магчымы эмацыянальны крызіс. Сіл табе хопіць, хаця сустрэнеш нейкія цяжкасці, якія ўскладняць твае планы. Заззяеш у кожнай кампаніі. Новыя прафесійныя выклікі. Варта падвучыцца, здаць экзамены. Ад 5 да 27.03. пераарганізуй месца працы. Задбай аб добры сон.

**(23.06. — 23.07.)** Цярпліва чакай моманту, а калі прыйдзе, дзейнічай асцярожна — будзе поспех. Зоркі спрыяюць тваім праектам і памагаюць пазбыцца «хвастоў». 5.03. запісвай сны. Пачуцці могуць ажыць з 7.03. 5-27.03. шанцы нанова скласці адносіны з сябрамі і раднёй. Маладзік Месяца 5-7.03. паможа падняць творчыя заданні і дасягнуць прафесійнае задавальненне. Найважнейшыя справы афармляй у дзвюх першых дэкадах.

**(24.07. — 23.08.)** Сардэчная атмасфера. Рыхтуйся да большага высілку — не пойдзе ён упустую. 5-9.03. непатрэбна будзеш турбавацца старымі справамі. Дома спакой. Ільвы з першых дзён знака будуць раздумваць, ці не перасяліцца. Парабі кантрольныя медабследаванні. Каб абясстрэсіцца, фундані сабе араматычныя масажы.

**(24.08. — 23.09.)** Справы пакоцяцца хутка і спраўна. Цешся і не шукай дзіркі ў цэлым. Магчымыя ўскладненні ў сувязях. У пары трэба «дацерціся». Будзеш трывалы і цярплівы. 5-7.03. нанова складзеш жыццё з партнёрам. Не абвінавачвай яго беспадстаўна, На працы лепш нічога не падпісвай. Не трымайся схем. Увесь месяц дачыненне з многімі неспадзяванкамі. Праекты падрыхтаваныя да 5.03. трэба будзе парабіць нанова. Ускладненні са службай здароўя: памылкі, кепскія рэцэпты, не тыя лякарствы, начакаешся ў чэргах аж да 27.03.

**(24.09. — 23.10**.) Не саромейся паказваць таленты, поспех вельмі блізкі. Вернецца вера ў сваю каштоўнасць, файныя прафесійныя прапановы. Тваімі сардэчным справамі займаецца Венера! 3.03. мусіш быць дыпламатам. Сваёй працай не будзеш вельмі задаволены, нават калі ўсё ў парадку — з-за твайго перфекцыянізму. Не мусіш лічыцца з кожнай залатоўкай, але не шалей. Зважай на тое, што ясі.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш задаволены тым, што робіш і як праводзіш свой свабодны час. Магчымасці развою і рэалізацыі ўласных зацікаўленняў. Знойдзеш аварыйны выхад у кожнай сітуацыі. Прываблівай «з галавой». Зоймешся кар'ерай і не змарнуеш ніякай нагоды, каб павысіць кваліфікацыі. Скарпіёны II дэкады: праверыцеся ў неспрыяльных абставінах і навучыцеся чагосьці. Найважнейшыя выдаткі плануй на першыя і апошнія дні месяца.

**(23.11. — 22.12.)** Акаляйся інспіруючымі людзьмі з пазітыўнай энергіяй. Разам зробіце нашмат больш! Аптымізм. Палёгка ў рэалізацыі планаў. У пачуццях можна пашалець! На працы засяродзься на абавязках, рэвалюцыйныя задумы няхай пачакаюць. З памылкамі і недаробкамі спраўляйся з 5.03., папраў бракі, каб не вылезла гэта ў апошнюю дэкаду сакавіка.

**(23.12. — 20.01.)** Канец працы, час на добрую забаву. З 7.03. паправяцца адносіны з раднёй. Нетыповыя, здзіўляючыя сітуацыі, але дасі рады. Гэта не час на прафесійныя змены, не дзейнічай неабдумана. Не мусіш турбавацца грашыма. Больш руху.

**(21.01. — 19.02.)** Здабудзеш файны вопыт, будзеш рабіць рэчы, аб якіх нядаўна не меў зялёнага паняцця. 3.03. не ўблытайся ў рызыкоўны раман. 3-5.03. можаш добра падзарабіць. Самотнага Вадалея чакае шалёная папулярнасць, але не спяшайся з дэкларацыямі. Мноства спраў і абавязкаў; надстаўляй вуха. Канкурэнцыя вельмі вострая. Можаш выйграць, атрымаць узнагароду; стандарт твайго жыцця ўзрасце. Ашчаджай нервы і не рабі нічога ў апошнюю хвіліну.

**(20.02. — 21.03.)** 5-7.03. знойдзеш свой шлях. Але 5-9.03. можаш загубіцца сярод ілюзій і пажаданняў. Будуць шчаслівыя нагоды, лаві іх у палёце. Час спрыяе працы, вучобе, адкрыванню новых зацікаўленняў. У пачуццях слухай інтуіцыі. Сябры не падвядуць. Многа працы, сустрэч і службовых паездак. Рыбы з II дэкады заззяюць геніяльнымі задумамі. Марыш пра новую працу? Нічога не мяняй з 5 да 27.03. Правер здароўе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва — ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

Беласток гэта шчаслівы горад. Шчаслівы хаця б з тае прычыны, што двойчы святкуем, Вялікдзень і Каляды. І, як аказваецца, двойчы святкуем таксама вяртанне незалежнасці. Бо Польшча была ўжо некалькі месяцаў свабодная, а ў Беластоку ўсё стаяла нямецкае войска, хаця наццаць кіламетраў далей яго ўжо не было. Такое было рашэнне маршалка Юзафа Пілсудскага, які вырашыў, што адступаючыя нямецкія войскі маюць пакідаць Расію цераз Беласток, Элк і пасля Каралевец, — сказаў у час урачыстай вечарыны з нагоды сотай гадавіны вяртання Беластока ў незалежную Польшчу прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі.



Галоўныя госці ўрачыстасці на Рынку Касцюшкі (злева направа): маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі, ваявода Багдан Пашкоўскі, прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі, арцыбіскуп Тадэвуш Войда, архіепіскап Іакаў

# Юбілей незалежнасці Беластока





Вянкі і сцяганосцы вакол помніка Юзафу Пілсудскаму

Пра тое, як Беласток апынуўся ў межах міжваеннай Польшчы не гаварылася ў мой школьны час на ўроках гісторыі. Крыху згадвалася пра Юльяна Мархлеўскага і ягоны рэвалюцыйны польскі ўрад. Вікіпедыя: „Tymczasowy Komitet Rewolucyjny Polski (TKRP), Polrewkom (ros. Польревком) — zaczątek władz komunistycznych na terenach Polski zajętych przez Armię Czerwoną w trakcie ofensywy letniej 1920. Utworzony 23 lipca 1920 w Smoleńsku przez Rosyjską Partię Komunistyczną (bolszewików) z przekształcenia Biura Polskiego przy Komitecie Centralnym partii bolszewickiej w czasie wojny polsko-bolszewickiej z działaczy komunistycznych polskiego pochodzenia przebywających w RFSRR. Komitet przemieszczał się w pociągu pancernym za frontem nacierającej Armii Czerwonej. Komunistyczna propaganda w okresie PRL-u głosiła, że odezwę o przejęciu władzy w Polsce Polrewkom ogłosił 30 lipca w Białymstoku, pierwszym większym mieście na zachód od linii Curzona, zajętym 28 lipca 1920 przez Armię Czerwoną. W rzeczywistości odezwę tę wygłoszono po raz pierwszy 30 lipca 1920 w Wilnie. Obszar kontrolowany przez TKRP ograniczał się do Podlasia i części Mazowsza czasowo zajętych przez Armię Czerwoną. Rozpoczęto formowanie Polskiej Armii Czerwonej pod dowództwem Romana Łągwy. Do 2 Białostockiego Pułku Strzelców zgłosiło się zaledwie 70 osób, a liczebność całej Polskiej Armii Czerwonej wyniosła 176 ochotników. W terenie organizowano Komitety Rewolucyjne. Gdy Armia Czerwona szturmowała przedpola Warszawy, kierownictwo TKRP (Marchlewski, Dzierżyński i Kon) przyjechało do Wyszkowa, aby z bolszewickimi wojskami wkroczyć do stolicy. W wyniku zwycięskiej kontrofensywy wojsk polskich, 22 sierpnia komitet zmuszony był w pośpiechu opuścić Białystok wraz z wycofującymi się wojskami Armii Czerwonej i udał do Mińska, gdzie znalazł się 26 sierpnia. Wkrótce zaprzestał działalności, a jego członkowie zostali przydzieleni do sztabów frontowych lub obozów jenieckich w celu bezskutecznego jak się okazało werbowania ochotników do Polskiej Armii Czerwonej”. А пра тое, што адбывалася паўтара года раней, не асабліва згадвалася; прынамсі такое не захавалася ў маёй памяці.

Першая сусветная вайна канчалася на ўсходнім яе фронце даволі складана. Пасля бальшавіцкай Кастрычніцкай рэвалюцыі новыя ўлады Расіі пайшлі на мірнае пагадненне з Германіяй і яе саюзнікамі, падпісанае 17 снежня 1917 года ў Брэсце. Неўзабаве дамова была парвана саветамі, а германскае і аўстрыйскае войскі пачало далейшае наступленне, у выніку якога заняло значную тэрыторыю Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны. Саветы былі вымушаны падпісаць чарговае перамір'е 3 сакавіка 1918 года, аддаючы пад нямецкі кантроль м.інш. Талін, Мінск і Растоў-на-Доне. У выніку рэвалюцыі ў Германіі і яе капітуляцыі на заходнім фронце, нямецкае камандаванне рашыла вяртаць сваё войска і з усходу. Галоўнай чыгуначнай лініяй, якая звязвала германскую тэрыторыю з войскам усходняга фронту, г.зв. Обер-Остам, была чыгунка Кіеў — Роўна — Ковель — Брэст — Беласток — Граева — Элк. І менавіта па гэтай лініі, у выніку дамовы Юзафа Пілсудскага з нямецкім камандаваннем, эвакуіравалася нямецкая армія ва Усходнюю Прусію. Эвакуацыя завяршылася 19 лютага 1919 года і менавіта тады Беласток пакінулі апошнія нямецкія ваякі, а ў горад з напрамку Лап уступілі польскія жаўнеры. Неўзабаве прыйшлося ім змагацца з наступаючай Чырвонай Арміяй; за няпоўнае паўтара года будзе ў нас адзначацца круглы юбілей „Цуду на Вісле”. Капітуляцыя Германіі на заходнім фронце ў лістападзе 1918 года абазначала, як заўважыў Уінстан Чэрчыль, канец вайны веліканаў і пачатак звадак пігмеяў — Еўропа рванулася ў вір меншых войнаў...

А сёлета, 19 лютага, у аўторак, Беласток адзначыў свой круглы юбілей. Галоўная ўрачыстасць, ладжаная Прэзідэнтам горада Беластока, адбылася на Рынку Касцюшкі перад помнікам Юзафу Пілсудскаму. На галоўнай трыбуне прысутнічалі ўлады ваяводства і горада ды запрошаныя госці. Прэзідэнт Трускаляскі заўважыў, што Прырода, Наканаванне шчодра адорыла гэты дзень сонечным цяплом. А дзесяць гадоў раней такую ўрачыстасць суправаджаў дваццаціградусны мароз. А сто гадоў таму на Рынку Касцюшкі, дзе зараз адбываецца наша ўрачыстасць, завіталі першыя патрулі Польскага Войска, прадстаўнікі арміі незалежнай дзяржавы, якой часткай станавіўся Беласток.

Прысутныя, разам з моладзевым хорам адспявалі Мазурку Дамброўскага. Пасля адбылося ўскладванне вянкоў да помніка Маршалку Пілсудскаму ад шматлікіх беластоцкіх установ і індывідуальных асоб. Прагрымеў залп у выкананні ганаровай роты 18 Беластоцкага разведвальнага палка. Пад музыку вайсковага аркестра з сядлецкага гарнізона прайшоў парад ганаровых падраздзяленняў беластоцкага вайсковага гарнізона, паліцыі, турэмнай службы, пажарнікаў, леснікоў... Было каля трыццаці сцяганосных каманд. І быў вялікі торт ад прэзідэнта горада яго жыхарам. Была прэзентацыя баявых машын нашага войска.

Адбыліся таксама цягам цэлага тыдня суправаджальныя мерапрыемствы, м.інш. малебны ў Свята-Мікалаеўскім саборы і ў Архікафедральнай базіліцы. Увечар, 19 лістапада, адбылася згаданая раней урачыстая вечарына ў Падляшскай оперы. Былі абнародаваны вынікі вызначэння дзесяці найбольш заслужаных Беластоку асоб на працягу менавіта мінулай соткі гадоў; гэты выбар здзейсніў адмысловы капітул, створаны прэзідэнтам Беластока. У дзясятку найбольш відных асабовасцей Беластока былі залічаны: архітэктар Станіслаў Букоўскі, лекар Ірэна Бялуўна, спартыўны дзеяч Мікалай Кавелін, былы эміграцыйны прэзідэнт Польшчы Рышард Качароўскі, першы беластоцкі каталіцкі мітрапаліт арцыбіскуп Эдвард Кісель, дырыжор Ежы Максімюк, міжваенны прэзідэнт Беластока Северын Навакоўскі, кіраўнік паўстання 1943 года ў беластоцкім гета Мардэхай Таненбаўм, футбаліст Тамаш Франкоўскі і эсперантыст Якуб Шапіра.

Завяршаючы сваё ўводнае выступленне на ўрачыстай вечарыне прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі сказаў:

Даваенны Беласток, Беласток стагадовай даўнасці, гэта Беласток людзей многіх веравызнанняў, многіх нацыянальнасцей, многіх культур, але беластачан, тых, якія тут асталіся і пачалі Беласток будаваць. І не толькі будаваць, але пачалі і за яго змагацца, бо ж тыя памардваныя на Паўночна-Акружной шашы з'яўляліся прадстаўнікамі розных класаў, розных пластоў і розных нацыянальнасцей. Мы павінны радавацца гэтым незвычайным днём, гэта вельмі радасны дзень. Мы павінны ўшанаваць тых стом, тым дзесяці выбраных беластачан, але таксама тым, якія гэты горад збудавалі, шматлікім, чые імёны не захаваліся. І Вам хачу падзякаваць за тое, што жывяце ў Беластоку, што тут працуеце, падзякаваць Вам за сённяшні дзень. Таксама падзякаваць Наканаванню, сто гадоў таму неба плакала, а сёння вельмі ўзрадавалася і прывітала нас сонечнымі прамянямі. І далей будзьма здольныя будаваць нашу супольнасць, супольнасць вышэй падзелаў. Трэба ганарыцца гэтым горадам, які так прыгожа развіўся. Каб Беласток быў горадам нашага сэрца, нашых вуснаў, каб адчувалі сябе тут найлепш, бо Беласток гэта наш горад і будзем яго надалей разам будаваць.

Урачыстасць у Падляшскай оперы закончыў канцэрт у выкананні бадай самага вядомага польскага ансамбля народнай музыкі „Мазоўша”. Калектыў запрэзентаваў праграму, адмыслова падрыхтаваную пад крыху ранейшы стагадовы юбілей адраджэння польскай дзяржавы. У праграме былі найбольш вядомыя патрыятычныя і народныя песні ды віртуозныя народныя танцы. Душа лунала...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 09